# ДЗЕЦІ ГУЛЯЮЦЬ У... ЖЫЦЦЁ

**Сцвярджаюць, што спрадвеку існуе (і, напэўна, будзе існаваць увесь час, пакуль будзе жыць чалавецтва) нявырашаны канфлікт пакаленняў, канфлікт бацькоў і дзяцей. Як падаецца, разам з тым сёння ўжо смела можна гаварыць і аб новай праблеме, якая пакрысе набывае ўсё больш канкрэтныя абрысы ў нашым жыцці — канфлікце самага маладога пакалення ў плане разумення самога сябе і нават, магчыма, жыцця. Памятаеце, як колькі гадоў таму старэйшы брат знаходзіў агульную мову з малодшым, у вулічных кампаніях (тады яшчэ ў гэтае словазлучэнне не ўкладалі таго сэнсу, які палохае абывацеля сёння) разам бавілі час і камсамольцы, і піянеры (па ўзросту). Быў час, калі ўсіх маладых аб'ядноўвалі нейкія агульныя захапленні, пачынаючы ад «Бітлз» і заканчваючы немудрагелістымі гульнямі накшталт футбола ці «вайны», якія збіралі пад свае «баявыя сцягі» ўсю вулічную дзятву. Павінна было прайсці мо пяць гадоў, каб неяк карэнна змяніліся густы, інтарэсы, у рэшце рэшт, мода, і на замену «старым» прыйшлі новыя пакаленні са сваімі кумірамі і памкненнямі. Зараз жа шматлікія «тусоўкі» змяняюць адна адну з касмічнай хуткасцю, літаральна кожны новы дзень выдае чарговага «ідала-аднадзёнку»...**

**Гэтыя радкі — не настальгія па мінуламу. Назіраючы сучасных падлеткаў, міжволі параўноўваеш колішняе сваё пакаленне і іх, больш прагматычных і часам жорсткіх як у адносінах паміж сабой, так і да тых, хто побач. Хочацца памыліцца, але падаецца, што за феерверкам забаў і задавальненняў сённяшняя моладзь не паспявае асэнсоўваць самую сябе, іншых. Адчуваецца нейкая павярхоўнасць іх унутранага свету, погляду на жыццё. Найбольш яскрава гэта бачна па дзіцячых гульнях, якіяператварыліся з разумовых, лагічных задумак у простае капіраванне рэчаіснасці. Так, нашы дзеці сёння гуляюць у жыццё. Нагледзеўшыся шматлікіх серыялаў, нібы губка ўвабраўшы ўсё, што яны бачаць і чуюць на вуліцы, у сям'і, дзеці пераносяць гэта на свае забавы...**

### «Паліцыя і наркотыкі»

...Па прасёлачнай дарозе недзе ў адной з краін Лацінскай Амерыкі няспешна бяжыць, падымаючы за сабой клубы пылу, старэнькі аўтобус. Нягледзячы на дробны пясок, які ляціць з-пад колаў ва ўсе бакі, усе вокны ветэрана аўтамабілебудавання расчынены, каб хоць нейкім чынам злавіць струмень паветра ў навакольнай спякоце. На крэслах уздоўж салона, шчыльна прыціснуўшыся адзін да аднаго і падскокваючы на няроўнасцях дарогі, сядзяць пасажыры: жанчыны з клункамі на каленях, якія ўвесь час размаўляюць паміж сабой, маўклівыя сяляне з нейкай дробнай хатняй жывёлай у нагах, дзятва. Паўсонную ідылію раптам парушаюць два мужчыны, якія, імгненна скінуўшы з сябе дрымоту, выхопліваюць з кішэняў пісталеты і, прыкрыкнуўшы на спалоханых пасажыраў, пачынаюць пільна ўглядацца ў дарогу наперадзе. Там, пакінуўшы свой аўтамабіль на абочыне, на сярэдзіну выходзіць шэрыф і падымае ўверх руку, каб спыніць аўтобус. Збялелы твар вадзіцеля, спрытныя рукі, якія спрабуюць пазбавіцца на хаду ад невялікіх пакетаў з наркотыкамі, рука паліцэйскага на рукаятцы пісталета...

Калі чытач думае, што гэта пераказ баевіка, ён памыляецца. Апісаную сцэнку аўтар гэтых радкоў убачыў, ідучы раніцай на працу побач з домам. Пасажыры і паліцыя — дзеці ва ўзросце 4—10 гадоў, якія ўладкаваліся ў старым разбітым мікрааўтобусе «РАФ», што стаіць на прыколе побач з адным з прыватных дамоў. Усе падзеі суправаджаліся гучнымі каментарыямі «акцёраў» на ўсю вуліцу.

***За сем месяцаў бягучага года ў цэлым па краіне непаўналетнімі былі ўчынены 5484 злачынствы, у тым ліку забойстваў — 41, згвалтаванняў — 40, разбояў — 144, рабаванняў — 382, крадзяжоў — 3545. За пазначаны тэрмін была выяўлена 4381 непаўналетняя асоба, якія ўчынілі злачынствы.***

### «Наркаманы»

Наступны эпізод убачыў літаральна днямі, едучы ў тралейбусе да чыгуначнага вакзала. Стоячы на задняй пляцоўцы, звярнуў увагу на двух падлеткаў 10—12 гадоў, што сядзелі тварам да мяне. Зацікавіўся іх штуршкамі і перашэптваннем, бо ў руках у іх заўважыў... аднаразовыя шпрыцы. Падлеткі гулялі ў наркаманаў, імітуючы кожны сам на сабе і на сябру працэс уводу ў руку наркотыку. «Атрымаўшы» дозу, кожны з іх закочваў вочы, пачынаў уздрыгваць, махаць рукамі, нешта мармытаць. Калі забава хлапчукоў пачала прыцягваць агульную ўвагу пасажыраў, падаў свой голас бацька (як стала зразумела з размовы) аднаго з іх, які ўвесь час стаяў побач. Ён сказаў: «Паводзьце сябе цішэй» і... зноў адвярнуўся да акна тралейбуса. На працягу шляху да канцавога прыпынку падлеткі «калоліся» ўжо моўчкі...

***На сённяшні дзень у Беларусі налічваецца больш як 12 тысяч дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў. З іх каля 7 тысяч выхоўваюцца і вучацца ў дамах дзіцяці, дзіцячых дамах і школах-інтэрнатах. Да 80 працэнтаў дзяцей, якія знаходзяцца на ўтрыманні дзяржавы, маюць жывых бацькоў, якія або пакінулі іх у радзільных дамах, або былі пазбаўлены бацькоўскіх правоў.***

### Стралкі па мішэнях

Недзе чуў, што ў мужчын цяга да зброі — у крыві. Калі шчыра, хто з нас у юнацкім узросце адмаўляўся схадзіць у школьны цір, патрымаць у руках вінтоўку ці пісталет. Зразумелае адсюль і жаданне хлапчукоў мець сучасныя цацкі ў выглядзе аўтаматаў, аўтаматычных вінтовак, пісталетаў і рэвальвераў, балазе, сёння гандаль можа задаволіць любыя густы дзяцей, чаго не скажаш аб фінансавых магчымасцях многіх бацькоў.

Маці і бацька пяцігадовага хлопчыка вырашылі зрабіць свайму нашчадку прыемнае, падарыўшы яму сапраўдную пнеўматычную вінтоўку. А паколькі працавалі бацькі ён — лётчыкам, а яна — сцюардэсай, прывезці сюрпрыз з Кітая не складала ніякіх цяжкасцей. Атрымаўшы зброю, сын разам з сябрам накіраваўся ў лес пастраляць. На шчасце, дзяцей заўважыў знаёмы сям'і, які ўбачыў у іх вінтоўку і адвёў «стралкоў» дадому. Што яму потым давялося выслухаць — не для друку.



Самым мяккім выразам бацькоў хлапчука ў яго адрас былі словы «за сваімі глядзі». Трэба меркаваць, гэты хлопчык яшчэ настраляецца. Дай Бог, каб толькі па мішэнях...

***Большасць сельскіх школ Беларусі пакутуюць зараз ад малакамплектнасці. Так, сярод пачатковых школ 35 працэнтаў маюць да 14 вучняў, 31 працэнт базавых школ — да 40 вучняў, 22 працэнты сярэдніх школ — да 100 вучняў. У сувязі з вялікай колькасцю малакамплектных пачатковых школ толькі 51 працэнт вучняў атрымліваюць веды ў самастойных класах, астатнія вучацца ў двух- і трохкамплектных класах.***

### З маленства з працягнутай рукой

У вагон метро ўваходзіць малады цыган, з выгляду — зусім юны, з дзяўчынкай на руках. Малая спіць, паклаўшы галаву яму на плячо. Дачакаўшыся, пакуль дзверы зачыняцца і цягнік кранецца, цыган ідзе па вагону, прысядаючы ад цяжару дзіцяці (дзяўчынцы 3-4 гады) і супраціўлення руху, і літаральна крычыць, каб пасажыры матэрыяльна дапамаглі хто колькі можа на лячэнне дзяўчынкі, якая пакутуе ад цяжкага захворвання сэрца. У якасці доказаў цыган трасе ў паветры нейкімі паперамі. Маўляў, патрэбна складаная аперацыя, якая патрабуе вялікіх грошай. Пасажыры паспешліва (ці з-за непрыемнага голасу, ці з-за няёмкай сітуацыі) даюць юнаку нейкую драбязу, некаторыя раптам нервова выходзяць з вагонаў, хутчэй за ўсё, не на сваім прыпынку. Даруй Божа, калі ўсё гэта праўда і людзям сапраўды патрэбны грошы. Але ілжэжабракоў апошнім часам стала столькі, што людзі пачалі ставіцца да іх хутчэй з пагардай, чым са спачуваннем. Ды і хіба можа сапраўдны бацька (?) насіць не адну гадзіну ў метро дзіця, якое пакутуе ад кіслароднай недастатковасці? На жаль, усё больш дзяцей з дапамогай дарослых з маленства пачынаюць жыць з працягнутай рукой. Напачатку проста цікава, а потым падлетак разумее, што замест таго каб працаваць, выгадна прасіць у добрых людзей «на хлеб». А калі не даюць — адзін крок да таго, каб узяць самому...

***На момант падрыхтоўкі публікацыі жанчынам у сувязі з нараджэннем дзіцяці выплачвалася разавая дапамога ў памеры 300 тысяч рублёў (трохкратны памер мінімальнай заработнай платы). Дапамога па цяжарнасці і родах для працуючых жанчын складае 100 працэнтаў сярэдняга заробку ў месяц, але не менш як дзве мінімальныя зарплаты. Да 3 гадоў на дзіця налічваецца штомесяц дапамога ў памеры 120 працэнтаў ад «мінімалкі», ад 3 да 6 гадоў — да 50 працэнтаў, ад 6 да 13 гадоў — да 60 працэнтаў, ад 13 да 16 (18) — да 70 працэнтаў ад мінімальнай зарплаты (у залежнасці ад даходаў на аднаго члена сям'і за мінулы год). Дадаткова да дапамогі штомесяц кампенсацыя складае на дзяцей да 3 гадоў — 50 тысяч, старэй за 3 гады — 40 тысяч рублёў.***

### «Палюбоўнікі»

Яшчэ адну дзіцячую гульню давялося пабачыць зноў жа ў доме, дзе жыву. Неяк, стоячы на першым паверсе ў чаканні ліфта, раптам пачуў за дзвярамі калідора побач галасы дзвюх дзяўчынак, якія «тэатральна» расказвалі аб сваім жыцці.

— Ведаеш, мой каханы мяне пакінуў, пайшоў да другой.

— Нічога, супакойся, знойдзеш сабе лепшага.

— Але ж я яго так кахала, так кахала! Як ён мог мне здрадзіць?..

— А чаму ты мяне не паслухалася? Я ж цябе папярэджвала.

— Як ён мог... Мілы, любы, каханы, вярніся да мяне, я кахаю толькі цябе аднаго...

— Кінь дурніца, на ім свет клінам не сышоўся, ты яго хутка забудзеш.

— Ты мяне не разумееш, ніхто мяне не разумее! Як мне цяжка.. Каханы, дзе ты?..

Увесь гэты дыялог суправаджаўся ўздыхамі і прычытаннямі. Нарэшце з-за дзвярэй выглянулі і «тэраіні» — дзве дзяўчынкі 5—7 гадоў. Убачыўшы мяне, яны нібы званочкі заліліся смехам і пабеглі па сваіх справах.

***За першае паўгоддзе бягучага года толькі ў Мінску было зарэгістравана 13 выпадкаў захворвання на сіфіліс дзяцей да 14 гадоў. Рост колькасці захварэўшых у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года — у 1,4 раза...***

### Праца як гульня?

Прадчуваючы магчымыя пярэчанні: маўляў, не ўсё так дрэнна з нашымі дзеткамі, спяшаюся пацвердзіць, што гэта сапраўды так. Добры прыклад таму — старэйшая дачка маёй стрыечнай сястры. 14-гадовая дзяўчынка самастойна займаецца гандлем у Мінску, возячы з прыгарада на продаж садавіну і агародніну. Не тое каб не хапала ў сям'і грошай (зрэшты, лішнімі яны ніколі не бываюць), ці яе прымушалі — не. Яна сама падчас канікулаў зарабляе сабе на розныя дробязі. На ўласным агародзе збірае кроп, вішні, кабачкі і прадае іх побач з прадуктовымі магазінамі або на Чэрвеньскім рынку сталіцы. Як расказвала, першы раз прадала кропу на 150 тысяч рублёў. Ледзь паспявала выкладваць яго з сумкі, бо ў параўнанні з кволымі раслінкамі побач, у суседзяў па гандлю, яе свежая прадукцыя з дагледжанага бабуляй участка ішла нарасхват (зазначу, што адзін пучок каштаваў усяго тысячу рублёў). Неяк з малодшай шасцігадовай сястрой яны прадалі ў родным пасёлку вядро вішань, а на атрыманыя грошы купілі дамоў некалькі кілаграмаў свежай рыбы. Не ведаю, як каму, а мне гэты здаровы прагматызм імпануе. Дзіця не просіць у бацькоў грошай, а зарабляе іх сваёй працай. Кошт заробленага рубля гэтае дзяўчо будзе ведаць з маленства. Прыгадваю, як некалі мы баяліся, каб нас не заўважылі знаёмыя за падобнай справай. Ці не таму многія ўжо пасталелыя хлопцы і дзяўчаты дагэтуль сядзяць на карках у бацькоў, баючыся запэцкаць рукі?..

**Ад аўтара.** Можна бясконца доўга спрачацца наконт таго, якія нашы дзеці — добрыя ці не. Але ў любым разе бясспрэчна адно: нашчадкі — адлюстраванне нас, дарослых. Ці не таму раней дзеці былі больш добрымі, спагадлівымі, выхаванымі? Жорсткае, бязлітаснае грамадства — такія самыя і дзеці. Якімі яны будуць, калі вырастуць, — як мы? Адкуль у іх душах будзе ўзяцца дабрыні, спачуванню, працавітасці, калі гэтыя якасці ў іх не закласці зараз? Ці не стануць для іх сённяшнія гульні ў жыццё самім жыццём назаўсёды? Каб вылечыць грамадства заўтра, дзяцей трэба ратаваць ужо сёння...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**
**Фота аўтара.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

## ...наведаць рынак у мікраёне

**Верагодна, самае неспакойнае месца ў сталіцы — цэнтральны харчовы рынак «Камароўка». Ва ўсякім разе, любімым назваць яго хатнім гаспадыням даволі цяжка: штуршкі ў спіну, адарваныя гузікі, немагчымасць прабіцца да прылаўка — вось далёка не ўсе «прывабнасці» наведвання Камароўкі. І хоць, як вядома, гэты рынак — галоўны, дабрацца да яго не так ужо і проста: нешматлікія аўтобусныя і тралейбусныя маршруты адмаўляюцца ў выхадныя дні перавозіць наведвальнікаў рынку з іх шматлікімі авоськамі і вёдрамі. А таму ў мікраёнах каля буйных універсамаў стыхійна арганізоўваюцца міні-рынкі, якія карыстаюцца ў гараджан папулярнасцю. Цэны на іх, як правіла, крыху вышэй чым на Камароўцы.**

Адзін з такіх «аазісаў» размешчаны ў Заводскім раёне на вуліцы Байкальскай. Адсутнасць натоўпу, чыстыя, пафарбаваныя прылаўкі, і, галоўнае, чысціня пад нагамі, у адрозненне ад Камароўкі, — вось характэрныя рысы гэтага рынку. Нягледзячы на куды больш сціплыя памеры, выбар агародніны і садавіны тут даволі значны, а цэны, (што немалаважна), практычна не адрозніваюцца ад цэн на цэнтральным сталічным рынку. Так, 1 кг маладой бульбы тут абыдзецца пакупніку ў 2,5—3,5 тыс. руб., цудоўныя памідоры, як кажуць, адзін у адзін — у 7-8 тыс. руб., а вось неўраджай агуркоў адбіваецца і тут, таму цэны на іх нават вышэй чым на памідоры, — 8-9 тыс. руб. за кг, 6-7 тыс. руб. каштуе морква, 4—6 тыс. руб. — свежая капуста, 3-4 тыс. руб. — кабачкі. Праўда, зяленіва набыць тут вельмі праблематычна: на тэрыторыі рынку я яго не бачыла, а на падступах да яго пятрушку і кроп можна было купіць па 1 тыс. руб. за пучок. На рынку вельмі вялікі выбар зялёнага перцу (цана — 7 тыс. руб. за кг) і баклажанаў (9—10 тыс. руб. за кг). Даволі рэдка сустракаюцца яблыкі (3—5 тыс. руб.), значна часцей можна сустрэць слівы (8,5—9 тыс. руб.). Няма недахвату ў кавунах (6 тыс. руб.) і дынях (12—13 тыс. руб.).

Яшчэ хочацца адзначыць цудоўна абсталяваныя мясныя рады ў крытым павільёне. Праўда, выбар мяса тут больш сціплы, чым на Камароўцы, але цэны практычна тыя ж: свініна — 40—60 тыс. руб. за 1 кг, ялавічына — 30—50 тыс. руб.

Ёсць чым паласавацца ў гандлёвых радах і аматарам рыбы: селядзец атлантычны каштуе на рынку 18—20 тыс. руб., свежамарожаны мінтай — 17 тыс. руб. за кілаграм.

Не абыходзяць увагай рынак і птушкафабрыкі: пастаянна на рынку ёсць некалькі машын, з якіх гандлююць яйкамі: 1 дзесятак абыходзіцца пакупніку ў 8,5—11 тыс. руб. А яйкі, як вядома, тавар крохкі, таму з цэнтра горада везці іх даволі рызыкоўна.

Увогуле, усе плюсы існавання такіх «міні-Камаровак», як гаворыцца, відавочныя. Да таго ж рынак даволі актыўна наведваецца і жыхарамі навакольных населеных пунктаў: відаць, народ убачыў выгаду ад такіх «ваяжоў», ды і з эканоміяй часу людзям, занятым работай, прыходзіцца лічыцца.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*СПОРТ-ЭКСПРЭС*

## ПА ШЛЯХУ Ў НАГАНА

**Сёння ў Рызе стартуе хакейны адборачны турнір да Алімпіяды-98, якая адбудзецца ў японскім горадзе Нагана.**

У сталіцы Латвіі, акрамя беларускіх хакеістаў, барацьбу за адзіную пуцёўку ў наступны, чвэрцьфінальны круг спаборніцтваў павядуць каманды Латвіі, Літвы, Эстоніі і Венгрыі. 27 жніўня беларуская каманда гуляе з венграмі, 28-га — з Эстоніяй, 30-га — з Літвой, 1 верасня — са зборнай гаспадароў лёдавай пляцоўкі.

Пераможца гэтага турніру восенню 1997 года ў новым групавым турніры васьмі каманд павядзе далейшую барацьбу за чатыры пуцёўкі на Алімпіяду.

На мінулым тыдні, напярэдадні матчаў у Рызе, беларуская хакейная зборная брала ўдзел у міжнародным хакейным турніры ў Кіеве, прысвечаным пятай гадавіне незалежнасці Украіны. Рэпетыцыя ўдалася: нашы спартсмены выйгралі ўсе чатыры матчы.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

# МАЙСТРЫ











Заканчэнне.
Пачатак на 1-й старонцы.

*Якія малайцы ганчары, казалі любанцы, а іх у гэты дзень было нямала. Хто не паленаваўся 25 жніўня наведаць абласны кірмаш-фестываль ганчарства ў Любані яшчэ доўга будуць цешыцца ўспамінамі аб свяце, адна толькі назва якога ўжо захапляе. А было тут што паслухаць і паглядзець. Рэжысёр Галіна Жураўская прыклала, пэўна, нямала высілкаў, каб народ не сумаваў і не было раўнадушных, каб было відовішчна і незвычайна.*

*Цэлае сузор'е майстроў спраў ганчарных праехала па горадзе на конях са сваімі збаночкамі, глечыкамі ды гаршчочкамі, як калісь іхнія продкі везлі на далёкія і блізкія кірмашы свой няхітры звонкі посуд. Былі калёсы з Івянца і Лагойска, Слуцка і Барысава, Узды і Бабруйска... Гаспадарылі, вядома, свае, дарасінаўскія майстры гліны. І вітаў усіх унікальны аркестр — гліняных інструментаў (таксама свой, любанскі). Было багата іншых музыкаў і спевакоў, без якіх ніводнае свята не зладзіш. Пад іхнія гукі і песні распачаліся гарачыя «спрэчкі» за ганчарным кругам. На вачах дапытлівых любанцаў і мноства гасцей літаральна нараджаліся цуды з простага кавалка гліны — нашы традыцыйныя гарлачы, бунькі, гаршкі ды місы. А іншыя ўмельцы спаборнічалі на лепшую цацку ды «хвісцёлку».*

*Не без цяжкасцей ацэньвала работы журы, якое ўзначальваў старшыня саюза майстроў, вядомы культуролаг Яўген Сахута: усе ўдзельнікі спаборніцтва людзі вядомыя, з вялікім вопытам, усе стараліся і выдавалі такое...*

*І ўсё ж галоўным героем свята быў названы Антон Пракаповіч — патомны івянецкі майстар. Ён лепшы ганчар Міншчыны.*

Анатоль КЛЯШЧУК.
Фота аўтара.

**НА ЗДЫМКАХ:**
- *Сямён Саўрыцкі сярод гледачоў (злева ўверсе);*
- *Антон Пракаповіч — лідэр конкурсу (справа ўверсе);*
- *сям'я Раманчукоў з Лагойска (злева ўнізе);*
- *фрагменты свята.*






## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### ● ЧАЧНЮ ЎЗНАЧАЛІЦЬ КААЛІЦЫЙНЫ ЎРАД?

Аляксандр Лебедзь праінфармаваў учора прэм'ер-міністра Расіі Чарнамырдзіна пра вынікі сваіх перамоў у Чачні. Прэм'ер-міністр абмеркаваў з сакратаром Савета бяспекі далейшыя крокі па палітычнаму ўрэгуляванню ў Рэспубліцы. Перад вылетам у Маскву з Грознага Лебедзь заявіў, што чарговы раунд яго перамоў з начальнікам штаба сіл чачэнскага супраціўлення Асланам Масхадавым адкладзены з-за юрыдычных цяжкасцяў, звязаных з падрыхтоўкай заключнага дакумента. План Лебедзя прадугледжвае фарміраванне ў Чачні пераходнага ўрада. Для гэтага спецыяльна створаны аргкамітэт, які будзе арганізоўваць выбары прэм'ер-міністра Чачэнскай рэспублікі. Наступным крокам становіцца фарміраванне кааліцыйнага ўрада. Галоўнай задачай пераходных органаў улады стане стварэнне ўмоў для правядзення ўсеагульных выбараў. У Грозным захоўваецца адносна спакойная сітуацыя. Чачэнскі бок пачаў частковы вывад з горада ўзброеных фарміраванняў. У сталіцу Чачні вяртаюцца шматлікія бежанцы, аднак назіраецца і сустрэчны паток.

### ● БЫЛОГА ПРЭЗІДЭНТА ПРЫГАВАРЫЛІ ДА СМЕРЦІ

Былога прэзідэнта Паўднёвай Карэі Чон Ду Хвана прыгаварылі да пакарання смерцю, а яго пераемніка Ро Дэ У — да 22 з паловай гадоў зняволення. Суд прызнаў іх вінаватымі ў тым, што ў 1979 годзе яны арганізавалі змову і ваенны мяцеж, у 1980-м — расстралялі ўдзельнікаў выступленняў за дэмакратыю і рэгулярна атрымлівалі буйны хабар ад прыватных карпарацый Паўднёвай Карэі.

**Радыё «Свабода» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Ці існуе на самай справе «нячыстая сіла»? Існуе, упэўніваў адзін з наведвальнікаў могілак у мексіканскім горадзе Гвадалахара. Але са сваім адкрыццём ён пайшоў не да святара, а ў паліцэйскі ўчастак. Там ён і растлумачыў, што сам рэальна чуў, як з аднаго склепа чуліся дзіўныя гукі, падобныя або на рык, або на чалавечы храп. Паліцэйскія, якія пайшлі па наводцы, знайшлі таямнічы «закінуты склеп», а ў ім... соладка храпеўшага маладога хлопца. Разбуджаны 21-гадовы Альфрэда Мехія растлумачыў, што пражыў у пустой дамавіне ўжо каля месяца, каб «адчуць асалоду ад адзіноты».

***ІТАР-ТАСС***

Кажуць: «Дзеці — кветкі жыцця», але 72-гадовая чэлябінка разумее гэту фразу па-свойму. Калі ёй здалося, што дзеці ў двары моцна расшумеліся, яна, не доўга думаючы, запусціла гаршком для кветак у аднаго з хлопчыкаў. Снарад з трэцяга паверха трапіў яму ў галаву. Той быў тэрмінова дастаўлены ў бальніцу, а пенсіянерка — у міліцыю.

***«Труд».***



# ... ГАЛОЎНАЙ ПРЫЧЫНАЙ БЕДСТВА З'ЯЎЛЯЕЦЦА ПОЎНАЯ АДСУТНАСЦЬ РЭФОРМАЎ

## Стан сельскай гаспадаркі Беларусі (на 1.07.1996 г.)

**У першым паўгоддзі 1996 г. у сельскай гаспадарцы рэспублікі працягваліся разбуральныя працэсы, якія пачаліся ў 1991 годзе. У выніку адбыўся далейшы спад вытворчасці прадукцыі жывёлагадоўлі, зменшылася пагалоўе жывёлы.**

**Улічваючы «знамянальную» дату — двухгоддзе прэзідэнцкага праўлення, аналіз стану сельскай гаспадаркі рэспублікі будзе, па магчымасці, праводзіцца ў параўнанні з пачаткам так званых рэформаў — 1991 і 1994 гг.**

ПАВОДЛЕ статыстычных справаздач, на канец паўгоддзя ў калгасах і саўгасах засталося 4,4 млн. галоў буйной рагатай жывёлы, у тым ліку кароў — 1,36 млн. галоў, свіней — 2,28 млн., авечак — 27.000 (крыху менш), коней — 0,151 млн. галоў.

У параўнанні з 1991 г. страты буйной рагатай жывёлы склалі 1,7 млн. галоў (27,6 працэнта), у тым ліку кароў — 327.000 галоў (-20 працэнтаў), свіней — 1,26 млн. галоў (-36 працэнтаў), авечак — 183.000 галоў (-88 працэнтаў).

З гэтай колькасці за перыяд прэзідэнцкага праўлення пагалоўе буйной рагатай жывёлы скарацілася на 552.000 галоў, у тым ліку кароў — 110.000 галоў, свіней — 300.000, авечак — 55.000, што раўнацэнна страце паловы жывёлы Брэсцкай вобласці і ўсяго свінаводства Гродзенскай вобласці, якія меліся на сярэдзіну 1994 года.

Рэзка пагоршылася прадуктыўнасць жывёлы. Сярэднясутачныя прывагі буйной рагатай жывёлы на вырошчванні і адкорме склалі толькі 305 г, што менш за паказчыкі 1991 і 1993 гг. адпаведна на 22,5 і 11 працэнтаў.

Знізіліся надоі малака ў кароў у параўнанні з 1991 г. на 37 працэнтаў і з 1994 г. — на 17 працэнтаў.

Адбыўся значны спад вытворчасці мяса і малака. За I паўгоддзе 1996 г. у грамадскім сектары вырашчана мяса менш, чым за адпаведны перыяд 1991 г. — у 2,4 раза, а ў параўнанні з 1994 г. — амаль на трэць. У выніку значна пагоршылася забеспячэнне людзей асноўнымі прадуктамі харчавання. У гэтым годзе прагназіруецца вытворчасць мяса на душу насельніцтва прыкладна 33—35 кг, малака — прыкладна 220—230 кг, што ў параўнанні з 1991 годам менш адпаведна ў 3,3—3,5 раза і 3,1-3,2 раза. Пры прэзідэнцкім праўленні забяспечанасць насельніцтва мясам пагоршылася ў 1,6 раза, малаком — у 1,4 раза. Увогуле, за кошт уласнай вытворчасці патрэбнасць насельніцтва ў мясе і малаку будзе задаволена адпаведна на 45 і *52 працэнты.*

Улічваючы забарону на імпарт мясной прадукцыі, можна прагназіраваць к канцу 1996 года вельмі напружанае становішча з забеспячэннем насельніцтва харчаваннем.

Зрабіць больш ці менш аб'ектыўны прагноз вытворчасці прадукцыі раслінаводства ў цяперашні час вельмі цяжка. Толькі з пэўнай доляй дакладнасці можна меркаваць аб зніжэнні вытворчасці збожжа.

Значна пагоршылася матэрыяльна-тэхнічная база сельскай гаспадаркі: асноўныя фонды галіны зменшыліся ў 1995 годзе ў параўнанні з 1991 годам у 5,8 раза (!), ці ў доларавым вылічэнні — з 35,7 млрд. долараў да 6,2 млрд. долараў. Асабліва пацярпела тэхнічная база. Напрыклад, колькасць спраўных трактароў скарацілася амаль на трэць, грузавых аўтамабіляў — на 22 працэнты, зернеўборачных камбайнаў — на 34 працэнты і г. д. На час прэзідэнцкага праўлення прыпадае каля паловы страт. Працэс старэння тэхнікі набывае пагрозлівы характар: калі ў 1991 годзе было куплена 9085 трактароў, 20.090 грузавых аўтамабіляў і 3013 зернеўборачных камбайнаў, то ў 1994 годзе — адпаведна 1451, 952, 89 штук, а ў 1995 г. — 304, 155 і 30 шт. (!).

Пры такім становішчы праз 2-3 гады ў сельскіх вытворцаў практычна не застанецца спраўнай тэхнікі.

Спад вытворчасці і іншыя звязаныя з гэтым фактары прывялі да банкруцтва прыкладна 97 працэнтаў калгасаў і дзяржгасаў. На пачатку года яны завінаваціліся пастаўшчыкам за тэхніку, угнаенні, сыравіну і паслугі 3553,3 млн. рублёў. Перапрацоўчая прамысловасць таксама завінавацілася гаспадаркам 1178,8 рублёў, аднак гэта ў тры разы менш, чым іх уласная запазычанасць. І запазычанасць калгасаў і саўгасаў працягвае расці. Таму пры выкананні Указа Прэзідэнта Лукашэнкі А. Р. № 208 ад 24 мая 1996 года амаль усе грамадскія гаспадаркі не могуць быць перарэгістраваны з-за сваёй стратнасці, гэта значыць павінны быць ліквідаваны.

Асноўнай прычынай катастрафічнага фінансавага становішча пераважная большасць аб'ектаў гаспадарання ў аграпрамысловым комплексе з'яўляецца неразумная цэнавая палітыка, якая праводзілася і ўрадам Кебіча В. Ф., і праводзіцца зараз Кабінетам Міністраў Лукашэнкі. З пачаткам так званых рэформаў перш за ўсё адбылася лібералізацыя цэн. У выніку штогадовы разрыў паміж закупачнымі цэнамі на сельскагаспадарчую прадукцыю (якія жорстка рэгуляваліся дзяржавай) і на прамысловую прадукцыю для сельскай гаспадаркі (практычна свабодныя) быў 12—18-кратным (!). Калі ў 1991 годзе цана трактара «Беларусь» была эквівалентная кошту прыкладна 30—40 т зерня, то ў 1995 годзе — больш чым 300 т зерня, ці амаль у 10 разоў больш. Гэта палітыка зрабіла нявыгаднай вытворчасць практычна ўсёй сельскагаспадарчай прадукцыі. Так, цяперашняя закупачная цана малака не пакрывае адпаведных выдаткаў. Пры самых спрыяльных умовах на яго вытворчасць патрабуецца кармоў эквівалентна 1,2 кг зерня. Кошт кілаграма канцэнтраваных кармоў у цяперашні час дасягае 1400—1500 рублёў. Такім чынам, на 1 літр малака затрачваецца кармоў на суму 1650—1700 руб. Закупачная цана 1 літра малака роўная 1700 руб., г. зн. яна кампенсуе толькі затраты кармоў, а іх доля ў сабекошце не перавышае 65 працэнтаў. Значыць, для забеспячэння рэнтабельнасці вытворчасці малака закупачную цану трэба падвоіць. Пры існуючай сістэме цэнаўтварэння аўтаматычна падвойваецца рознічная цана. А гэта — крызісны тупік. Паводле даных сацыялагічных даследаванняў, каля паловы насельніцтва рэспублікі ўжо цяпер не мае сродкаў для нармальнага харчавання. А пры падваенні цэн асноўныя прадукты харчавання стануць наогул недасягальнымі для большасці насельніцтва. У выніку дзеяння зваротнай сувязі пойдзе далейшы спад вытворчасці да поўнага яго спынення. І такая сітуацыя склалася ва ўсіх відах вытворчасці прадукцыі жывёлагадоўлі.

Не лепшы стан і ў раслінаводстве. Тут таксама бачна яўнае ўшчамленне інтарэсаў беларускіх вытворцаў. Так, закупачныя цэны на збожжа новага ўраджаю ўстаноўлены для калгасаў і саўгасаў на ўзроўні 100—200 долараў ЗША за тону. У той жа час тэндэрныя цэны (для закупкі за межамі Беларусі) зацверджаны ў памеры 140—170 долараў за тону, ці амаль у 1,5 раза вышэй.

Натуральна, што галоўнай прычынай бедства, якое напаткала сельскую гаспадарку, з'яўляецца поўная адсутнасць рэформаў. Далей размоў на працягу 5 гадоў справа так і не пайшла. Да гэтага часу працягваюцца палітычныя дыскусіі аб праве прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці, асабліва на зямлю. Праціўнікі рэформаў, а іх пераважная большасць сярод кіраўнікоў гаспадарак ад брыгадзіраў і вышэй, а таксама сярод дзяржаўных чыноўнікаў усіх узроўняў кіравання, усяляк стараюцца захаваць цяперашні стан безгаспадарчасці ва ўсім. Гэта ідэальная сітуацыя для рэалізацыі асноўнай ідэі камунізму — права кожнага на чужое. Практычна сёння яны распараджаюцца ўсёй грамадскай маёмасцю як сваёй уласнай, кожны ў межах сваёй пасады. Прыняты Вярхоўным Саветам 12-га склікання Закон аб прыватнай уласнасці на зямлю і папраўкі, прынятыя не так даўно Вярхоўным Саветам 13-га склікання, праблем не вырашаюць. Больш за тое, нават тыя куртатыя правы, якія прадэклараваны гэтымі законамі, амаль цалкам заблакіраваны мясцовымі ўладамі і кіраўнікамі гаспадарак. У выніку затарможаны працэс фермерызацыі і пашырэння прыватных індывідуальных гаспадарак да ўзроўню таварных. У рэспубліцы засталося каля 3000 фермерскіх гаспадарак, прычым іх колькасць пастаянна змяншаецца па прычыне разарэння гаспадарак, якія не сталі на ногі і засталіся без падтрымкі. Дзяржаўная падтрымка фермераў фактычна зведзена да нуля. З 80 млрд. рублёў, прадугледжаных дзяржбюджэтам на гэтыя мэты, за паўгода выдзелена толькі каля 20 працэнтаў (!). Чакаць паляпшэння становішча сёлета не трэба, таму што на гэта не будзе сродкаў.

Выправіць становішча ў сельскай гаспадарцы за кароткі тэрмін ужо немагчыма, але спыніць катастрофу яшчэ можна. Для гэтага неабходна ў бліжэйшы час перагледзець механізм цэнаўтварэння на сельскагаспадарчую прадукцыю, адмяніць усе падаткі, якія ўваходзяць у сабекошт, і адмовіцца ад шматступеньчатага ўтварэння цаны (у вытворцы, перапрацоўшчыка і ў галіне гандлю). Цану павінен устанаўліваць вытворца з улікам сваіх выдаткаў і рэнтабельнасці вытворчасці, выдаткаў на яе перапрацоўку і рэалізацыю. Гэта дазволіць падвоіць закупачныя цэны пры адначасовым зніжэнні ў два разы рознічных цэн. Такі крок, напэўна, стрымае далейшы спад вытворчасці, павялічыць аб'ёмы рэалізацыі, таму што цэны стануць больш дасягальнымі. У канчатковым выніку гэты крок дазволіць павялічыць аб'ёмы падатковых паступленняў у бюджэт.

У якасці дзяржаўнай падтрымкі сельскай гаспадаркі таксама мэтазгодна з цаны паліва, зрасходаванага на вытворчыя мэты ў калгасах, дзяржгасах і фермерскіх гаспадарках, выключыць падатковую частку, што зробіць іх амаль у два разы меншымі.

І, вядома, асноўны шлях — найхутчэйшая зямельная рэформа на аснове прыватнай уласнасці на зямлю. Усім праціўнікам рэформаў і тым, хто сумняваецца, трэба зразумець, што без перадачы зямлі ў прыватную ўласнасць вытворцу выхаду з тупіка няма.

Па-першае, без гэтага немагчыма трансфармацыя калгасаў і дзяржгасаў у рыначныя структуры. Акцыянернае таварыства, любы варыянт кааператываў, таварыстваў з абмежаванай і неабмежаванай адказнасцю проста абсурдныя, калі асноўны капітал — зямля — не належыць іх членам, а толькі дзяржаве, і распараджаюцца ёю незацікаўленыя дзяржаўныя чыноўнікі.

Па-другое, без з'яўлення на зямлі ГАСПАДАРА, зацікаўленага ў яе рацыянальным выкарыстанні, ніякіх інвестыцый не будзе.

Па-трэцяе, развіццё сістэмы фінансавання сельскай гаспадаркі шляхам крэдытавання праз іпатычныя банкі таксама немагчыма, таму што для атрымання крэдыту трэба мець залогавую маёмасць, а галоўнай маёмасцю ў сельскай гаспадарцы з'яўляецца ЗЯМЛЯ.



Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

Па-чацвёртае, у цяперашнім становішчы ўсеагульнага жабрацтва людзей найбольш слабым стаў сельскі жыхар, асабліва пенсіянеры. Аддаўшы сілы і здароўе калгасам і дзяржгасам, яны засталіся толькі з жабрацкай пенсіяй (якую, да таго ж, выплачваюць нерэгулярна) і прысядзібным участкам, на апрацоўку якога ўжо не засталося сіл. Для гэтых людзей участак зямлі, выдзелены бязвыплатна, будзе вялікай падмогай. Здаўшы яго ў арэнду трансфармаванай гаспадарцы ці нават прадаўшы, сельскі пенсіянер атрымае значную прыбаўку да пенсіі.

Ды і для працуючых сельскіх жыхароў гэта неабходна. Паводле даных Міністэрства эканомікі, зарплата ў сельскай гаспадарцы ў першым паўгоддзі 1996 года на 41 працэнт ніжэй за сярэднерэспубліканскі і на 2 працэнты ніжэй за мінімальны пражытачны ўзровень (635 тыс. рублёў).

Такія асноўныя характарыстыкі стану сельскай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь на канец першага паўгоддзя 1996 года і шляхі спынення катастрофы.

**Іван НІКІТЧАНКА,**
**доктар сельскагаспадарчых навук,**
**член-карэспандэнт**
**Акадэміі навук Беларусі.**

# ПАЛЕ

Л-ІЧБЫ, якія паслужылі спадару Нікітчанку асновай для жорсткіх, на яго, відаць, погляд, высноў, — пачаў размову Васіль Севасцьянавіч Лявонаў, — добра вядомыя. Яны друкуюцца, агучваюцца ў дакладах. Яны выкладзены ў паведамленнях дзяржаўнай статыстычнай службы. У асноўным лічбы адлюстраваны правільна. Праўда, месцамі ёсць спробы змяніць акцэнты. Ды справа ў прынцыпе не ў гэтым. Самі па сабе аб'ёмы вытворчасці, калі мы гаворым, наколькі, можна коратка, ні пра што не гавораць, бо з'яўляюцца вынікам таго, што гэта вытворчасць непрыбытковая, неканкурэнтаздольная, таму і скарачаецца.

Пра гэта ж мала хто гаворыць. Вы, журналісты, таксама абыходзіце гэтую тэму ці, хутчэй, — яе аспект. Адно толькі апелюеце да лічбаў...

**— Васіль Севасцьянавіч, а калі — і вы ж наконт гэтага не спрачаецеся, — лічбы правільныя, то чаму б да іх у якасці аргумента і не звярнуцца?**

— У дадзеным выпадку размова вось пра што. Магчыма, нам трэба вырабіць не 1 мільён тон ялавічыны сабекоштам два долары, а — паўмільёна тон сабекоштам адзін долар. Заўважаеце розніцу?.. Вось у гэтым накірунку, калі браць апошні год (я не хацеў бы гаварыць, што з'явіліся поспехі, бо, сапраўды, крызіс глыбокі і зацяжны), змены адбываюцца.

**— Вы можаце прывесці прыклады?**

— Калі ласка. Возьмем птушкагадоўлю. Ашаламляльныя вынікі. Ужо сёння мы можам заявіць сапернікам, канкурэнтам, што свой рынак па птушцы мы нікому не аддадзім. Больш за тое — заваюем іншыя. І не толькі мерамі адміністрацыйнымі — пакуль мы вымушаны прымяняць і іх, але і тым, што вытрымаем канкурэнцыю. І, пабачыце, праз нейкі год будзем на роўных весці птушыную рыначную «бітву» з тымі ж галандцамі.

**— Калі ўжо акцэнтаваць увагу на птушкагадоўлі, то голад, адсутнасць прадуктаў харчавання ў выніку крызісу сельскай гаспадаркі нам ні ў якай ступені не пагражаюць?**

— Ні ў якім разе. Але не буду пярэчыць увогуле. Заўважу і наступнае. Варта толькі адчыніць вароты, падняць шлагбаумы перад замежнымі прадуктамі харчавання, як беларускія крамы, беларускі рынак заваляць чым заўгодна... Пра які ж тут голад можна гаварыць?..

**— Добра. Дык чаму ж вы тады не падымаеце гэты шлагбаум, чаму не дава-**

**ляеце ў поўнай меры прыйсці на Беларусь амерыканскім і еўрапейскім прадуктам харчавання?**

— Вядомая справа, мы яшчэ неканкурэнтаздольныя. Любая дзяржава абараняе свой рынак. Вось паспрабуйце прадаць бульбу, напрыклад, у Германію. Вас адразу ж на мяжы абложаць мноствам пошлін, пра ўсякі прыбытак і думаць забудзецеся.

А калі мы гэтак жа адвольна пусцім тавар адтуль, то варта нагадаць, што ёсць дэмпінгавыя цэны. Сёння нам прывязуць курыныя кумпячкі па 80 цэнтаў — і мы зачынім свае птушкафабрыкі. А тады ўжо гэтыя кумпячкі нам будуць прапаноўваць па 2 долары. Нармальныя правілы канкурэнтнай барацьбы. І трэба быць, прабачце, дурнем, каб так лёгка ім паддавацца. Таму мы і прымаем меры па абароне сваіх вытворцаў. Гэта і пошліна — трыццаць пяць працэнтаў. Гавораць: сёння быў бы меншы кошт, але ж заўтра... Вы ж азірніцеся. Там, за мяжою, робяць усё, каб абараніць свой рынак. У тым ліку — і ад нас.

**— Васіль Севасцьянавіч, няўжо капіталісты баяцца нас? Няўжо мы такія вялікія, перспектыўныя вытворцы ў галіне сельскай гаспадаркі?..**

— Сённяшнія нашы праблемы навідавоку. Але капіталісты, як вы гаворыце, думаюць заўжды пра перспектыву, разглядаюць розныя варыянты, прагназіруюць рознае развіццё падзей. Але ж і прыбядняцца дужа таксама не варта. Пусцілі б нас бяспошлінна — мы маглі б прадаваць на берлінскім рынку прадукцыю раслінаводства.

**— І што, напрыклад?**

— Тую ж бульбу. Агародніну. Маглі б прадаваць і лён. Не гавару, што канкурэнцыю вытрымае наша жывёлагадоўчая прадукцыя... А вось раслінаводчая галіна вытрымала б.

**— Значыць, як быццам бы лагічны тэзіс, ці прагноз, пра тое, што к канцу 1996 года можна разлічваць на даволі напружаную сітуацыю з забеспячэннем насельніцтва прадуктамі, не спраўдзіцца?**

— Пра гэта і няма гаворкі. Іншае, што хвалюе зараз, — мець рабочыя месцы, дзе мы маглі б зарабляць. Гэта пытанне з пытанняў эканомікі...

**— Васіль Севасцьянавіч, і ўсё ж давайце не пакінем без увагі лічбы, паказчыкі. Хіба ж яны не характарызуюць развіццё альбо падзенне, увогуле — стан галіны?..**

— Так, характарызуюць. Валавыя паказчыкі гавораць пра многае. Але ж тут, калі падводзіць рысу пад сёлетнім першым паўгоддзем, варта азірнуцца назад, калі летась быў неўраджай і не было кармоў. Адсюль — і спад, зніжэнне вытворчасці па прадукцыі жывёлагадоўлі. Не магло быць і росту ў першым квартале. Але ж калі гаварыць пра эфектыўнасць, то мы пры меншай колькасці кармоў здолелі атрымаць прыбаўленне ў вазе па свініне. Дарэчы, у нас зараз маюцца рэальныя магчымасці недзе гады за два адпрацаваць канкурэнтаздольную вытворчасць свініны. Ёсць праблемы з ялавічынай. Усе дзяржавы дацыруюць яе вытворцаў. Наша ж пакуль не можа. Спадзяюся, што дзяржава з часам усё ж таксама будзе дацыраваць вытворчасць ялавічыны.

**— Як, між іншым, дацыруюць ва ўсім свеце вытворчасць цукровых буракоў ...**

— Калі ў нас селяніну плацяць трыццаць долараў за адну тону цукровых буракоў, то французы, напрыклад, — семдзесят. У іх жа больш высокая ўнутраная цана на цукар. А нам пастаўляюць значна танней. І зноў жа — каб захапіць наш рынак.

**— Вам асабіста не падаецца, што ў многіх бедах вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі вінаваты перапрацоўшчыкі? Прыбытак таго ж калгаса ад здадзенага малака нашмат меншы, чым прыбытак перапрацоўшчыка...**

— Так было. Сёння мы імкнёмся праз акцыяніраванне стварыць канкурэнтнае асяроддзе. Каб самі змагаліся вытворцы. І першыя крокі ў гэтым накірунку ўжо зроблены. Напрыклад, мінскія заводы плацяць даражэй, чым лагойскія. Але акрамя гэтага, улічваючы маруднае развіццё па шэрагу прычын, Мінсельгасхарч увёў наступны нарматыў: за адзін кілаграм жывой вагі свініны плаціць толькі 1200 рублёў. І ўсё. У выніку цана на свініну паднялася на тры тысячы рублёў, не закрануўшы розпічных цэн.

**— Былі зменшаны апетыты толькі мясакамбінатаў?**

— Чаму ж толькі мясакамбінатаў?.. Тое ж і па маслу...

**— Васіль Севасцьянавіч, дык цяпер ужо перапрацоўчая сфера страціла. Другое ваша дзіця, пакуль Мінсельгасхарч як кіраўніцкая структура адстойваў інтарэсы вытворцаў, аказалася бедным.**

— Так, ёсць, і такі бок справы, што мясакамбінаты аказаліся ў нейкай ступені са стратамі. Дык няхай прыводзяць свае затраты ў адпаведнасць з вытворчасцю. Больш за тое, заўважу, што затраты мы ім залажылі роўныя з еўрапейскімі. Хочаш жыць — выконвай агульнапрынятыя нормы, правілы. Інакш — калі ласка, мы ў паслугах, якія ня-



*Васіль ЛЯВОНАЎ:*

# «Наша мэта — калектыўная гаспадарка прыватных уласнікаў. А формы — кааператыўная ці акцыянерная...

**Як першапачатковы штуршок да размовы з міністрам сельскай гаспадаркі і харчавання Васілём Лявонавым — артыкул, прынесены ў рэдакцыю вядомым вучоным-аграрнікам, чалавекам, актыўным не толькі ў навуцы, але і ў палітыцы, членам-карэспандэнтам Акадэміі навук Беларусі Іванам Нікітчанкам. Але ж і рэдакцыя, і міністр не ставілі перад сабой задачы пераводзіць гутарку ў плоскасць выключна каментарыя да выступлення вучонага. Таму як вынік — шырокая размова пра многія аспекты аграрнай палітыкі дзяржавы, пазіцыю міністэрства, ды і самога міністра ў стаўленні да сучаснага эканамічнага развіцця, у бачанні перспектыў усяго народнагаспадарчага будаўніцтва.**

здольны служыць агульным інтарэсам, не маем патрэбы. Другое — мы пераходзім на новыя ўмовы аплаты працы. Працуеш ты нармальна, і калі гавораць, што няма жывёлы, — пераходзіш на больш глыбокую перапрацоўку, шукаеш іншыя формы, шляхі, магчыма, гандлюем, — вось асэнсаванне рынку. Дарэчы, першай подых рынку, да яе гонару, адчувае Гродзенская вобласць. Там усе мясакамбінаты ўвялі ва ўжытак згаданы нарматыў. Бо разумеюць, што карысць прыносіць развіццё канкурэнтаздольнасці, а не прымітыўная манапалізацыя.

Як бачыце, два шляхі, два накірункі мы выкарыстоўваем — і прымаем адміністрацыйныя рашэнні, і рыхтуем глебу для сур'ёзнай канкурэнцыі.

**— Так ці інакш, але ўсё, як бы і за што б не спрачаліся розныя апаненты, пачынаецца з вытворцы. І нават тады з яго пачынаецца, калі перапрацоўчая сфера, скарыстоўваючы сваю блізкасць да рынку, гэтак паблажліва-пагардліва ўзіраецца ў вясковую далячынь і разважае: прыдушыць калгасы адразу альбо толькі папужаць? Так, не прыдушыць.**

**І таму, відаць, што баіцца выразных адміністрацыйных мераў у адносінах да сябе. А яшчэ і таму, што разумеюць перапрацоўшчыкі: жыць, існаваць і заўтра ім трэба ўсё ж за кошт вытворцаў.**

**Ды гэта адна толькі галіна з усяго аграпрамысловага комплексу. А часам падаецца, што і дзяржава, маючы на тое ўскоснае права, ёсць дыктатар і душыцель калгасаў. Прабачце, але ж хіба калгасы — дзяржаўная ўласнасць?**

— Сёння калгасы карыстаюцца датацыямі дзяржавы. Чаму так складана сфарміравалася ў нас эканоміка ў сельскай гаспадарцы — гэта ўжо іншая і даволі доўгая размова. Сёння ж датацыі дзяржавы...

**— Дыктуюць калгасам характар зносінаў з ёй жа, дзяржавай?**

— Чаму б і не? Калгасы атрымліваюць датацыі не толькі ў выглядзе крэдытаў, але і ў выглядзе прамых субсідый. Напрыклад, угнаенні дзяржава аплачвае калгасам на 80 працэнтаў. Дык будзьце ж тады ласкавыя — адрабляць гэтыя немалыя ўліванні.

**— Між іншым, хацелася б ведаць сітуацыю з фінансаваннем угнаенняў па гэтаму году.**

— 120 мільярдаў укладвае ўрад, 120 мільярдаў — аблвыканкомы. Дык гэта ж бюджэтныя грошы... Не задаволены? У адваротным выпадку бярыце поўную свабоду — і ідзіце.

**— І ідуць. Праўда — не калгасамі, але з тых жа адзінак-фермераў ужо шарэнгі можна сфарміраваць хаця б для адной-дзвюх калон вясковых рэфарматараў...**

— Так, фермерскі рух развіваецца. На 1 ліпеня ў краіне 3036 фермерскіх гаспадарак. У 1995 годзе было 2951, у 1994-м 2726. Дзяржава, наколькі гэта магчыма ў сённяшніх эканамічных умовах, дапамагае і фермерам. Сёлета прадугледжана дзяржбюджэтам падтрымка ў 80 млрд. рублёў.

**— І што на сённяшні дзень дайшло да фермера?**

— 28 млрд. рублёў. Але тут узнікае іншае пытанне — як эфектыўна гэтыя сродкі будуць выкарыстаны? І пасля, калі ўжо зайшла размова пра фермерскі рух, наўрад ці лагічным было б яго, скажам так, альбо прымусовае, альбо цяплічнае развіццё.

Але ж што датычыцца і фермераў і калгасаў, тут не забывайцеся пра наступнае. Дзяржава ў адпаведнасці з сённяшнімі эканамічнымі ўмовамі не можа дацыраваць у большай ступені, чым яна робіць гэта зараз. Трэба зыходзіць з таго, што мы маем. Эканоміка няздольная аказаць большую дапамогу.

Часам хтосьці з былых пачынае актыўна крытыкаваць і мяне асабіста, што, маўляў, міністр не дамагаецца большага дацыравання. Але мая пазіцыя ў гэтым і заключаецца. Грош цана таму міністру, які, з'яўляючыся членам урада, будзе лабіраваць, патрабаваць. Гэта бессэнсоўна.

**— Васіль Севасцьянавіч, цалкам пагаджаюся з вамі, але, разумеючы вас, дазвольце ўсё ж, калі размова зайшла пра заўвагі міністраў былых часоў, зрабіць адну згадку-экскурс. Тагачасным кіраўнікам было прасцей папрасіць грошы пад пэўную задачу з саюзнага, напрыклад, бюджэту. Галоўнае — скласці праект, пралічыць верагодны прыбытак. Яшчэ лепей — выкласці на паперы грандыёзны праект. Вось і ішлі, цяклі грошы. Пад меліярацыю, пад хімізацыю...**

— Я тут заўважу хіба што адно. Тады быў, сапраўды, перыяд росквіту сельскай гаспадаркі, але заснаваны не на канкурэнтаздольнасці, не на эфектыўным гаспадаранні, а на бясплатных рэсурсах Расіі.

Дык вось (і ёсць на тое разлікі навуковых інстытутаў, нашага главка), калі б мы выйшлі на тыя цэны (зразумела, беручы пад увагу інфляцыю) па рэсурсах (а гэта не толькі нафта, газ, але і тэхніка, угнаенні), то мелі б на кожную гаспадарку дадатковы прыбытак 400 тысяч долараў у год. Вось што дало б нам сапраўднае ўсталяванне сусветных цэн. Гэта пяць камбайнаў у год для адной гаспадаркі! А мы ж, на жаль, аказаліся ў іншых умовах. Таму і нельга параўноўваць учора і сёння. Так, людзі ставяць пытанне: давайце ўступім, увойдзем у Расію. Але ж і яна атрымлівае нафту па гэтых цэнах.

**— І сапраўды, бясплатнай нафтай нас не адораць ні Расія, ні хто-небудзь іншы. І амерыканцы — таксама. Што тады рабіць?**

— Давайце навучымся працаваць, як палякі, немцы і амерыканцы, эканоміць рэсурсы, працаваць так, як яны. Упэўнены, зможам. Асобныя гаспадаркі ў свінагадоўлі ўжо так і працуюць — эфектыўна, з увагай да эканоміі рэсурсаў. Калі нам давядзецца пагутарыць праз два гады, вы абавязкова ўспомніце гэтыя мае словы. Праз два гады свінагадоўля пакажа сябе. Па раслінаводству, акрамя вырошчвання цукровых буракоў і лёну, у нас рэнтабельная вытворчасць. Іншая справа — агромністы апарат кіравання, сацыяльная сфера. А ўсё гэта патрабуе велізарных затрат.

**— Вы зачапілі, назваўшы сацыяльную сферу, абсяг клопатаў і затрат такі вялікі, што ўжо можна забыцца і пра вечную тэму для крытыкі — суадносіны кіраўніцкага апарату і непасрэдна працаўнікоў. Ёсць радыкалы, якія прапаноўваюць сацыяльную сферу вывесці па-за межы калгаснага ўплыву...**

— І я таксама адношуся да такога роду радыкалаў. А адкажыце зараз на маё пытанне. У цэнтры калгаса жывуць старшыня, спецыялісты гаспадаркі — у добраўпарадкаваных дамах, бясплатна карыстаюцца газам. Як яны могуць глядзець у вочы тым людзям, якія жывуць у астатніх васьмі—дзесяці вёсках гаспадаркі?.. Пастаўце ўсіх у роўныя ўмовы. А гэта магчыма толькі праз бюджэтнае фінансаванне.

**— Васіль Севасцьянавіч, мы падрабязна гаварылі пра тое, што ўсё не так катастрафічна дрэнна. У сельскай гаспадарцы, мусіць, не горш, чым у прамысловасці. А можа нават і лепш. Але ж мы ведаем цану гэтым «горш», «лепш». Таму, нікога і нічога ні з кім не параўноўваючы, маючы на ўвазе, што ўсім проста неймаверна цяжка, зададзімся і такім пытаннем: як выкараскацца, як не адкаціцца яшчэ далей назад? Ёсць жа калгасы-банкруты...**

— Давайце разбяромся, што ж ёсць банкруцтва. У традыцыйным нашым разуменні банкруцтва — гэта знішчэнне. Але ж ёсць і іншае вымярэнне. Банкруцтва — гэта змена формы ўласнасці, аздараўленне гаспадаркі, прадпрыемства. У маім разуменні — пралангацыя даўгоў, прыватызацыя ці, дакладней, — акцыяніраванне, аказанне дапамогі, змена ўласніка.

**— І якім павінен быць механізм гэтай змены, гэтага аздараўлення?**

— Калгаснікі, маючы свой пакет акцый, вызначаюць і каманду кіраўнікоў, спецыялістаў. Але гаспадаркі захоўваюцца, навошта іх разганяць. У нас, прызнацца, некаторыя ў Кабінеце Міністраў лічаць, што рэформа — гэта развал калгасаў. Ці ж не глупства лічыць так? Гаспадаркі буйныя альтэрнатывы не маюць.

**— Васіль Севасцьянавіч, але ж справа рэфарміравання ці не ў большай ступені залежыць не ад Кабінета Міністраў, а ад кіраўнікоў на месцах, ад старшынскага корпуса. Вы верыце, што кіраўнікі калгасаў — за рэформы?**

— Большасць разумее, што трэба не стагнаць, а працаваць. Я вам гавару з усёй адказнасцю, што тысяча пяцьсот чалавек разумеюць: трэба працаваць, трэба мяняць ранейшы ўклад гаспадарання.

**— Тысяча пяцьсот, магчыма, і разумее. Старшынь і калгасаў нашмат болей. Нямала і банкрутаў. Як сённяшніх, так і патэнцыяльна заўтрашніх. Наколькі рашуча дзяржава ўключыцца ў высвятленне лёсу тых астатніх гаспадарак, кіраўнікі якіх якраз і не разумеюць?**

— Безумоўна ж, сам-насам з будучыняй мы не павінны пакідаць такія стратныя, такія непрыбытковыя калгасы. Дзяржава павінна ўзяць на сябе абслугоўванне доўгу, які ёсць. Яго нельга спісваць. Распісаць гэты доўг на дзесяць наступных гадоў, пераўтварыўшы яго, напрыклад, у беспрацэнтную пазыку. Маёмасць жа калгаса падзяліць на ўсіх калгаснікаў у выглядзе каштоўных папер. Пры гэтым павінен існаваць сапраўдны гаспадарчы разлік. Вось шлях, па якому варта і неабходна ісці.

**— Калі падагульніць нашу размову, што ўсё ж уяўляе праграма выхаду аграпрамысловага комплексу краіны з крызісу?**

— Праграма, якую прапаноўвае міністэрства, мае на мэце наступныя кардынальныя задачы. Прыцягненне абаротных сродкаў у агракомплекс краіны пры адпрацоўцы жорсткага механізма гарантыі вяртання пазыковых грошай, інакш без гэтага мы не зможам хутка падняцца. Неабходна ўстанавіць сістэму цэнаўпарадкавання з пераразмеркаваннем прыбытку на карысць вытворцы (а не спекулянта). Абавязковая рэарганізацыя агракомплексу з завяршэннем рэальнага мноства формаў уласнасці ўсіх яго работнікаў і працоўнай самаарганізацыі калгаснікаў.

Ідэалогія, калі хочаце, нашай праграмы — сфарміраваць эканамічна і палітычна свабоднага селяніна — сапраўднага гаспадара на зямлі. Пераход да інтэнсіўнай сельскагаспадарчай вытворчасці і поўнага забеспячэння насельніцтва рэспублікі асноўнымі прадуктамі харчавання, агрэсіўная экспартная палітыка. Падтрымка гаспадарак, працуючых у горшых прыродных умовах. Аднаўленне кіравання агракомплексу па вертыкалі, пры скарачэнні да мінімуму адміністрацыйна-кіраўніцкіх мераў, за кошт пераходу да эфектыўнага фінансава-крэдытнага рэгулявання і кантролю. Змена падатковай і мытнай палітыкі.

Максімальнае пашырэнне безнаяўнага абароту (адзін з галоўных антыінфляцыйных сродкаў) праз канцэнтрацыю абаротных сродкаў агракомплексу ў адзінай галіновай фінансавай сістэме. Забеспячэнне занятасці насельніцтва, якое вызваляецца ад сельскагаспадарчай вытворчасці, шляхам развіцця аграперапрацоўчых вытворчасцей, будаўніцтва, рамёстваў і дапаможных вытворчасцей у сферах лёгкай і харчовай прамысловасці, а таксама — зборачных вытворчасцей высокатэхналагічнай прадукцыі. Дапамога мясцовым органам кіравання ў падтрыманні сацыяльнай сферы, а пасля — і яе развіццё. Згаданыя клопаты, накірункі — і ёсць наш шлях у рэфарміраванні.

**—... У рэфарміраванні, пры якім не будзе знішчана калгасная сістэма?**

— Безумоўна. І я яшчэ раз акцэнтую ўвагу на тым, што мы хочам рэфарміраваць калгасы, палепшыць іх. Сёння вам хіба незразумела, што Беларусь не стане фермерскай краінай, ці, на крайні выпадак, не стане ёю ў бліжэйшыя два-тры дзесяцігоддзі?

Тыя тры тысячы фермерскіх гаспадарак, што ёсць у нас зараз, пакуль не развіваюцца. Практыка апошніх гадоў яшчэ раз пацвярджае, што буйная сельскагаспадарчая вытворчасць найболей эфектыўная, але пры адной абавязковай умове: асабістай зацікаўленасці кожнага работніка ў выніках уласнай працы.

Думаю, што нікому не трэба даказваць, што самы руплівы, старанны работнік — гэта ўласнік. Наша мэта — калектыўная гаспадарка прыватных уласнікаў. А формы — кааператыўная ці акцыянерная. Гэта і ёсць галоўны накірунак аграрнай рэформы.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# КІРМАШ



## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 31 (50)




## ПРАДАЕЦЦА

- Форд - Эскорт, 1984 г. вып., Дызель, 1,6 л. 5 КПП, магнітола, бэж., 3 дзвярэй — за 2500 долараў. *Тэл. (8-270) 5-50-61 г. Нясвіж, вул. Фрунзе, 15. Бясько А. М.*
- Жаробка 1 год 1 месяц, цана дагаворная. Звяртацца: *Лагойскі раён, в. Асінцы, д.32. Шаціла.*
- Зруб 7х9, *тэл. у Стоўбцах 39-1-97 пасля 20 гадзін.*
- Аўтамабіль «Масквіч-412» 1980 г. выпуска. Звяртацца па тэл. (8-297) 51-0-03. Хацяновіч К. В. в. Восава, Мядзельскага р-на Мінскай вобласці.
- Дом у в. Заброеўцы Лідскага раёна ў добрым стане з гаспадарчымі пабудовамі, нядорага. *Ліда, тэл. 99-3-44.*
- Газ-66, дызель, тэнт. *Тэл. у Стоўбцах 36-3-03.*
- Новы баян «Эцюд»-205—М2, г. Тула. *Тэл. у Слуцку 75-2-87.*
- Слівы, яблыкі — цана па дамоўленасці: *Гомельская вобл., Рагачоўскі р-н, в. Залоззе, вул. Партызанская, д.37. Саша.*
- Хата пад дачу ў в. Закрашынскі Мох Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл. — за 3 км ад ст. Васілевічы, сад, лазня, 0,30 га, хлявы. *Тэл. 240-90-686; 240-34-593.*
- Аўтамабіль «ЛуАЗ-969М», 1991 г. вып., прабег 50.000 км, пластыкавы дах, аздоблены салон. Цана па дамоўленасці. *Тэл. (01794) 57-1-04.*
- Драўляны дом, 55 кв. м, з гаспадарчымі пабудовамі, на ўчастку 20 сотак, 300 м ад ст. Далекаўка Магілёўскага раёна. Кошт 3 000$. *Тэл. у Магілёве (8-222) 42-67-56.*
- Прадам карані жэньшэню, аеру, калгану, чагу, насенне лекавых траў. *231814 Гродзенская вобл., Слонімскі раён, Высацк. Жукоўскі І. У.*
- Бычок, 5 месяцаў, вага 110—120 кг. *231813 Гродзенская вобласць, Слонімскі раён, п/а Дзераўная, в. Ашнаравічы. Тэл. (8-262) 73-2-06.*
- 2- пакаёвая кватэра ў г. Б.-Кашалёве, Гомельскай вобласці або мяняю на г. Светлагорск. *Тэл. (8-02342) 23-6-10.*
- Кузаў і рухавік да «Масквіча-2140». Звяртацца: *Валожынскі раён, в. Гародзькі, тэл. 33-2-10 пасля 21 гадзін.*
- Тэрмінова, нядорага дом з прысядзібным участкам у в. Кашчэлічы Валожынскага р-на. Звяртацца ў Валожыне: *вул. Пушкіна, 47.*
- «Масквіч-2140», 1984 г. вып. 950 $. *Тэл. 43-41-76, пасля 19 гадзін.*
- Дом, з усімі пабудовамі у в. Спягло, танна (1000$) можна на знос. *Тэл. у Любані. Вілейскага раёна 45-4-44.*
- Кнігі, кампакт - дыскі, касеты на англійскай мове. *220114 г. Мінск, а/с 128.*
- Новы цагляны дом у прыгарадзе Баранавіч або мяняюцца на жыллё ў Слоніме. *Тэл. 8-01562 — 3-22-58.*
- 4-пакаёвую кватэру (130 кв. м) палепшанай планіроўкі ў цэнтры (8 паверх). *Тэл. у г. Баранавічы 2-90-06.*
- Дом у г. Клецку, тэлефон, гаспадарчыя пабудовы, агарод — 6 сотак, 10 сотак зямлі за горадам. *Тэл. у Дзяржынску 555-89.*
- Катэдж з падвалам, гараж, хлеў, участак 10 сотак у г. Старыя Дарогі Мінскай вобласці або мяняю на кватэру ў Гомелі. *Тэл. (8-246) 2-21-67 у рабочы час.*
- Новы цагляны дом з гаражом на беразе р. Віліі (в. Міхалішкі Астравецкага раёна) будматэрыялы на гаспадарчыя пабудовы. *Тэл. (8-01591) 26-100.*
- Дом, 2 хлявы, сад, 2 склепы, калодзеж, 60 сотак (Капыльскі р-н). *Тэл. у Мінску: 299-45-18; тэл. у Маладзечне (273) 5-19-27.*
- Матацыкл «ІЖ-105 К, 1988 г. вып., прабег 10.000 км., цана 400$, чырвоны. *Тэл. у Нясвіжы 5-52-55.*
- Да аўтамабіля «Масквіч» рэдуктар, ахова пярэдніх колаў, рухавік М-408, б/к. Г. *Нясвіж, Тэл. 5-73-59.*
- Дом з пабудовамі ў г/п Бобр Крупскага раёна. Звяртацца: *Мінская вобл., Крупскі раён, п/а Залекі, в. Ерашоўка. Хакала.*
- Цагляны дом з усімі выгодамі ў раёне г. Шчучына, Гродзенскай вобласці. Маецца тэлефон, гараж, хлеў, участак. *Тэл. у г. Шчучыне 252-67, у Лідзе 2-86-05.*
- 4-пакаёвая кватэра з усімі выгодамі ў Чавусах, ёсць тэлефон, гараж, нядорага. *Тэл. у Чавусах (8-02242) 2-20-30 пасля 18.00; тэл. у Мінску: 272-15-82, 231-81-77.*
- Прычэп да «УАЗ-31512»; заводскі, грузападымальнасць —1,5 т (400$); заводскі; тэнты да УАЗа і інш. запчасткі. *Тэл: 22494, 21994.*

| Наименование | Цена | Организация | Телефон |
|---|---|---|---|
| **ТУРИЗМ И ОТДЫХ** | | | |
| Египет: 8, 11, 15 дней авиа «Боинг» | от 525 $. 4-5-звездный отель | Техно-стар | тел./факс 268-47-14 тел. 268-56-69. |



Беларускі навукова-вытворчы цэнтр **«Аметыст»** аб'яўляе аб сваёй ліквідацыі. Прэтэнзіі прымаюцца на працягу месяца з дня публікацыі па адрасу:

***г. Мінск, вул. К. Лібкнехта, 68, пакой 401. Тэл. 56-75-55.***

- Прадаецца дом у г. Вілейцы, участак 18 сотак, склеп, гараж, хлеў або мяняю на 1-пакаёвую кватэру ў Мінску. Тэл. у Мінску 257-90-00.
- Прадаецца катэдж без унутраных работ у г. Смаргонь 15 сотак.

## РОЗНАЕ

Маецца сталярка, сантэхнічнае абсталяванне. Тэл. 5-14-43.

- Пастаянна купляем на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь сухое малако, казеін. *Звяртацца: г. Вільнюс (0122) 72-19-98, 72-11-05 (01299) 26754, (01299) 28189.*
- Мяняю 4- пакаёвую кватэру ў г. Горкі на 3-пакаёвую ў г. Мінску. Магчымы варыянты. *Тэл. у Горках (02233) 22486.*
- Былых партызан атрада імя Сімацкага асвейскай брыгады «Фрунзе» прашу выслаць свае адрасы Аржаніку Віктару Паўлавічу: *213160, Магілёўская вобл., г/п Бялынічы, вул. Калініна, 1В, кв. 5, тэл. 2-16-45.*
- Шукаю работу па спецыяльнасці (фр., ням. мовы) з прадастаўленнем жылля. Гродзенская вобл., Свіслацкі раён, п. Пацуі. Смалей Света.
- Аказваю аўдытарскія паслугі. *Тэл. 22-79-446.*
- У г. Клічаве Магілёўскай вобласці ствараецца новая экспазіцыя краязнаўчага музея.

Калектыў музея звяртаецца да чытачоў газеты «Звязда» з просьбай дапамагчы сабраць для раздзела «Народная адукацыя» рэчы даваеннага і ваеннага перыядаў.

Нас цікавяць старыя падручнікі, сшыткі, школьныя прыналежнасці, карты, атласы і іншае.

Будзем вельмі ўдзячныя за дапамогу.

*213900 Магілёўская вобл., г/п Клічаў, вул. Зайца, 21. Раённы музей. Дырэктар музея Ачыновіч.*

- Шукаю сур'ёзных людзей для сур'ёзных прапаноў. *220114, г. Мінск, а/с 128.*
- Мяняю 2-пакаёвую кватэру, усе зручнасці (Старое Сяло Мінскага р-на) + гараж + «ВАЗ-21061» + хлеў + падвал + агарод на Мінск. *Тэл. 92-77-62.*

# «З НЕДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭСАЙ ПАЧЫНАЮЦЬ ЛІЧЫЦЦА»

**мяркуе Вячаслаў ХАДАСОЎСКІ, галоўны рэдактар «Белорусского рынка» — аднаго са старэйшых дзелавых штотыднёвікаў у нашай краіне**

***Штотыднёвік «Белорусский рынок» адзначае сваё пяцігоддзе. Для газеты гэта не так і шмат, але час, які мінуў з 1991 года, ахоплівае вялікую і супярэчлівую гісторыю станаўлення незалежнай Беларусі, незалежнай эканомікі, незалежнай прэсы. Гэта сапраўды цэлая эпоха. Многія называюць «Белорусский рынок» «газетай уплыву» з-за высокай якасці яе інфармацыі і каментарыяў і эфектыўнасці па ўздзеянню на дзелавыя колы і кіраўніцтва краіны. Разам з тым выразна бачна, што гэтая газета стараецца быць стрыманай, нетэндэнцыйнай, аб'ектыўнай, не гоніцца за таннымі сенсацыямі. Зусім нядаўна яна атрымала незвычайнае прызнанне свайго высокага ўзроўню. Ажно чатыры яе журналісты сталі лаўрэатамі конкурсу «Лепшы эканамічны аглядальнік», які праводзіўся фондам Сораса.***

***З галоўным рэдактарам «Белорусского рынка» размаўляе журналіст «Звязды». Пяцігадовы юбілей штотыднёвіка стаў толькі нагодай для гутаркі.***

**— Вячаслаў Уладзіміравіч, ці лёгка, па-вашаму, цяпер у Беларусі выдаваць прыватную газету?**

— Гэта, відаць, залежыць ад таго, якая газета. Калі рабіць выданне чыста рэкламнае, газету прыватных аб'яў, то я думаю, што гэта нескладана. Калі ж рабіць канцэптуальную газету, беручы за аснову нейкую ідэю, то вытрымліваць яе даволі складана. За ідэі ў нас пакуль не плацяць вялікіх грошай, а, з другога боку, пэўныя ідэі могуць быць і небяспечнымі для іх носьбітаў, калі яны супярэчаць нейкай афіцыйнай палітыцы... Акрамя таго, для таго каб выдаваць салідную газету, патрэбна пэўная кваліфікацыя супрацоўнікаў, а ў нас працэс падрыхтоўкі журналістаў усё-такі знаходзіцца на нізкім узроўні. У нас рыхтавалі не журналістаў, а ідэалагічных работнікаў, і яны не ведаюць у патрэбнай ступені праблем эканомікі, палітыкі, не валодаюць як трэба мовай. Таму, падводзячы рысу, я, відаць, адказаў бы, што выдаваць прыватную газету складана. Я не кажу ўжо пра праблему грошай, пачатковага капіталу на гэтую справу. Калі мы пяць гадоў таму пачыналі сваю справу, то абыходзіліся мінімальнымі сродкамі. Цяпер патрэбна значна больш. Так што добра, што тады мы паспелі пачаць...

**— І ўсё-такі, што лягчэй: пачынаць у тых умовах ці працягваць справу цяпер?**

— Пачынаць было лягчэй: быў энтузіязм, былі ідэі і ўяўленні, што мы хутка пабудуем грамадства з даволі развітой рыначнай эканомікай, што мы адпаведна зможам зрабіць цікавую газету і атрымаем ад гэтага прафесіянальнае і матэрыяльнае задавальненне. Але працэс гэты пачаў замаруджвацца, расцягвацца. Не ва ўсіх вытрымлівалі нервы, хацелася хутчэй дабіцца змен да лепшага, хацелася і хочацца лепш жыць і працаваць ужо цяпер.

**— Але ў многіх склалася ўяўленне, што прыватным газетам усё даецца проста і лёгка...**

— Ды не. Пачнём з таго, што ў нас няроўныя ўмовы з дзяржаўнай прэсай. У адносінах да нас існуе іншая цэнавая палітыка, дапусцім, у паліграфістаў. Акрамя таго мы доўгі час былі фактычна адсечаны ад афіцыйных крыніц інфармацыі. Цяпер, дзякуй Богу, сітуацыя, канешне, змянілася. І я лічу галоўным дасягненнем гэтага пяцігоддзя, дасягненнем не толькі нашай газеты, але і ўсіх незалежных, недзяржаўных выданняў тое, што з намі пачалі лічыцца. Не заўважаць недзяржаўную прэсу як з'яву ўжо немагчыма. Тут, зразумела, трэба прызнаць, што недзяржаўныя газеты выраслі і прафесіянальна, сталі больш цікавымі, больш сур'ёзнымі. Хаця, канешне, мы не змаглі дасягнуць таго ўзроўню, якога маглі б дабіцца за гэты час пры ўмовах, калі б у адносінах да недзяржаўнай прэсы не было б дыскрымінацыі і з боку паліграфістаў, і службы распаўсюджвання і г. д.

**— А з іншага пункту гледжання, незалежная прэса пакуль і не заваявала такой шырокай папулярнасці, як дзяржаўная, за межамі Мінска і абласных цэнтраў яе мала дзе і чытаюць...**

— Я думаю, што гэта бяда не самой прэсы, а грамадства ў цэлым. У нас няма сродкаў, каб мець свае сістэмы распаўсюджвання... А з другога боку гэта і натуральна, паколькі такая прэса, і перш за ўсё дзелавая, разлічана на пэўны ўзровень чытачоў, падрыхтаваных і гатовых да навацый. Такія людзі жывуць пераважна ў буйных эканамічных цэнтрах. Тым не менш мы стараемся пашыраць свой уплыў.

**— Так. І ў сферы прыватнай прэсы Беларусі можна заўважыць яўны прагрэс за апошнія гады. Але ён не такі, як у Літве, Латвіі ці на Украіне. У нас няма нават адной штодзённай недзяржаўнай газеты агульнанацыянальнага маштабу.**

— Зразумела, гэта так. Мы неяк разлічвалі, што цяпер патрэбна, каб стварыць штодзённую газету тыпу «Бизнес-Балтия», каля 1,5—2 млн. долараў інвестыцый, што з'яўляецца празмерна вялікай сумай. У многіх краінах той жа Прыбалтыкі ў недзяржаўныя СМІ ўкладваўся замежны капітал...

**— А за колькі часу вам ці каму іншаму можна было б сабраць неабходны капітал, каб стварыць урэшце ў Беларусі газету тыпу «Бизнес-Балтия»?**

— Калі б у нас не забіралі 70 працэнтаў падаткаў ад таго, што мы зарабляем, і не было б такіх звышвысокіх крэдытных ставак, то можна было б нармальна браць банкаўскія крэдыты і спакойна развівацца, адпрацоўваючы іх...

**— Так, зразумела. Недзяржаўная прэса гэта не толькі СМІ, але і бізнес. Як развіваўся ваш уласны бізнес на фоне развіцця ўсяго прыватнага бізнесу ў нашай краіне?**

— У нас няма ніякага іншага бізнесу акрамя выдання газеты. Мы зараблялі на тым, што прадавалі сваю газету і рэкламную плошчу ў ёй. На жаль, мы пакуль вельмі марудна развіваемся. Канешне, за пяць гадоў мы павялічыліся ў аб'ёме, вырас наш штат, з'явілася новае абсталяванне, але гэтага мы дабіліся з вялікім напружаннем. Я ведаю, што многія выдаўцы спрабавалі спалучыць газетны бізнес з нейкім іншым, мы ж робім тое, што ўмеем. Калі ж гаварыць аб тэмпах развіцця бізнесу ў цэлым, то да 1995 года ён даволі паслядоўна рос. Пазней прыватны бізнес таксама адчуў на сабе праблемы стагнацыі эканомікі. Пачалося згортванне дзелавой актыўнасці, вываз капіталу і вытворчасці за межы Беларусі. Таму адпаведна знізіліся і нашы даходы ад рэкламы, зніклі прапановы аб акцыяніраванні нашай газеты...

**— У пераходныя перыяды, у час эканамічных трансфармацый прыватны бізнес можа стаць тым буферам, што ратуе грамадства ад празмерна высокага беспрацоўя, спаду эканомікі і інш. А ці здольны на гэта, на ваш погляд, беларускі малы і сярэдні прыватны бізнес?**

— Канешне, здольны. Вазьміце хоць нашу газету. Мы пачыналі з трох чалавек, а цяпер у нас працуе каля сарака супрацоўнікаў. Тое самае ўяўляюць і іншыя прыватныя прадпрыемствы. Тут самае галоўнае — не перашкаджаць людзям працаваць, паляпшаць уласны дабрабыт і эканамічную сітуацыю ў краіне. Так, на гэтай хвалі з'яўляецца і «пена», як гаворыцца, але не па ёй трэба меркаваць... На сваё пяцігоддзе мы зрабілі спецыяльны нумар «Белорусского рынка», паспрабавалі паглядзець, аб чым мы пісалі пяць гадоў таму, што адбылося за гэты час у асноўных сектарах нашага рынку. У першым ці другім нумары газеты ў 1991 годзе ў нас былі артыкулы пад загалоўкамі: «Ці зацягне нас Ельцын у рынак?», «Прыватызацыя — на старт!» Ці шмат змянілася за гэты час, можаце меркаваць самі. Вечна мы стаім на старце, спадзяёмся на кагосьці. Не, ніхто нас не будзе цягнуць, мы павінны ўсё рабіць самі. І тут выразна відаць залежнасць эканомікі ад палітыкі...

**— У вашай газеце апошнім часам з'явілася шмат спецыяльных дадаткаў: фінансавы, прамысловы, рыэлтарскі. Ці сведчыць гэта пра тое, што на беларускім рынку сапраўды з'явіліся дастаткова аформленыя сегменты рыначнай эканомікі?**

— Я тут зноў бы звярнуўся да першага пытання, ці лёгка выдаваць прыватную дзелавую газету. З гэтага пункту гледжання лёгка, бо ў нас зусім няма выданняў, якія асвятлялі б дзейнасць усіх гэтых сегментаў рынку. І гэтыя дадаткі, якія мы цяпер выдаём, вельмі важныя і цікавыя для прафесіянальных удзельнікаў адпаведных рыначных структур: фінансістаў, рыэлтараў і г. д. Аб гэтым можна меркаваць па іх рэакцыі на нашы спецвыпускі. Таму відавочна, што яны грамадству патрэбны, хаця не могуць пакуль сябе акупляць.

**Размаўляў Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*НОВАЯ «ЦАРСКАЯ ГАРЭЛКА» — РЫЖАЯ СМЕРЦЬ*

# З думай аб процівагазе

**Гарантый, што пражавелыя цыстэрны з найтаксічнейшым ракетным акіслялнікам не разваляцца, ніхто не дае. У тым ліку — і Грамадзянская абарона. Аднак яна гатова ратаваць тых, хто можа пацярпець ад «рыжай смерці». Ва ўсякім разе, планы наконт гэтага распрацаваны**

***Праблема знішчэння ядавітага меланжу, якога пасля вываду расійскіх войскаў «назбіралася» 8 тысяч тон, абрасла вялікай колькасцю афіцыйных дакументаў. Сярод іх сваё месца займае сумесны загад міністраў абароны і ўнутраных спраў ад 11 красавіка 1996 года № 193/78. З мэтай выканання даручэння кіраўніка беларускага ўрада ад 4 студзеня г. г. № 02/301-458 міністры загадваюць: «Стварыць міжведамасную інспекцыйную групу па кантролю за захаваннем мераў бяспекі пры захоўванні, транспарціроўцы і утылізацыі кампанентаў ракетных паліваў у саставе...» У спісе з васемнаццаці асоб пералічаны супрацоўнікі начштаба тылу Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, спецыялісты Мінабароны, Грамадзянскай абароны, іншых ведамстваў.***

***Глянем больш уважліва на гэтыя меры бяспекі ў дачыненні менавіта да ракетнага акіслялніка. Пра тое, як ён захоўваецца на ваеннай базе ў вёсцы Сялец, што непадалёк ад горада Ліды, ужо гаварылася. З дзірак і шчылін старых рэзервуараў ужо выпараюцца «рыжыя хвосцікі» вельмі таксічнага вокіслу азоту — складанай часткі меланжу, кантрольная апаратура, засцерагальныя клапаны на ёмістасцях няспраўныя. Чым усё гэта можа ў выніку абярнуцца — зразумела.***

***Транспарціраваць куды-небудзь рэзервуары ў такім стане немагчыма, ды гэтага ніхто і не дазволіць. Значыць, застаецца толькі утылізацыя акіслялніка на месцы. Але ж мы ўжо бачылі, што яна, па сутнасці і не распачаўшыся, прыпынілася на немаведама які час.***

***Неабходна, хочам мы таго ці не, улічваць магчымасць узнікнення самай сапраўднай надзвычайнай сітуацыі — з непрадказальнымі маштабамі і наступствамі. Падумаць аб тым, якім чынам у такім выпадку ратаваць жыхароў у тым жа Сяльцы.***

***Начальнік упраўлення грамадзянскай абароны Галоўнага ўпраўлення камандуючага ўнутранымі войскамі Міністэрства ўнутраных спраў палкоўнік Уладзімір МІЦКЕВІЧ у свой час у невялікім выступленні ў «Звяздзе» абмаляваў некаторыя дэталі ўзнятага пытання. Сёння яму прадастаўляецца магчымасць даць самую шырокую ацэнку стану праблемы абароны грамадзянскага насельніцтва пры ўзнікненні разнастайных ЧП увогуле і ад наступстваў магчымай надзвычайнай сітуацыі на базах захоўвання меланжу — у прыватнасці.***

**— Паколькі справа па знішчэнню ракетнага акіслялніка «арганізавана» ў рэспубліцы так, што перспектывы пазбавіцца ад яго на сённяшні дзень вельмі цьмяныя, то міжволі пачынаеш думаць пра вашу, Уладзімір Сяргеевіч, службу як пра апошні рубеж абароны насельніцтва, што пражывае ў пэўнай блізкасці ад небяспечных аб'ектаў. Адсюль — найпершае пытанне: ці ёсць гарантыя, што ў тым жа Сяльцы ці на іншай падобнай базе ў самы непадыходзячы час не адбудзецца ЧП з усімі яго наступствамі?**

— Ніхто такой гарантыі даць не ў стане: надзвычайная сітуацыя на такім аб'екце можа ўзнікнуць і праз дзесяцігоддзе, і праз два гады, і праз месяц. Мы ў Грамадзянскай абароне лічым, што «заспакойваць» грамадства проста так, толькі таму, што гэтага камусьці захочацца, — будзе і непрафесіянальна, і несумленна.

Аб складанасці праблемы з ракетным палівам увогуле сведчыць, напрыклад, з'яўленне ў студзені гэтага года «Плана ўзаемадзеяння органаў кіравання і сіл дзяржаўнай сістэмы па папярэджанню і дзеяннях у надзвычайных сітуацыях», які быў узгоднены трыма міністрамі — унутраных спраў, абароны, надзвычайных сітуацый. Зацвердзіў яго намеснік прэм'ер-міністра, старшыня Камісіі па надзвычайных сітуацыях пры Кабінеце Міністраў В. Далгалёў. У красавіку гэты план быў пашыраны і дапоўнены — у сувязі з пытаннямі бяспекі, якія ўзніклі вакол кампанентаў ракетнага паліва (КРП), у прыватнасці і з тым жа меланжам.

Гэты план маецца ўсюды на месцах, ён узгоднены з камандзірамі адпаведных вайсковых часцей. У адносінах да Грамадзянскай абароны ў ім вызначаны тыя сілы і сродкі, якія яна павінна прыцягнуць да лакалізацыі і ліквідацыі аварыйных сітуацый пры захоўванні, транспарціроўцы і знішчэнні ракетнага паліва. У дакуменце, зразумела, не разглядаюцца канкрэтныя «мясцовыя» дэталі — яны закладзены ў планы органаў кіравання ў абласцях і раёнах.

У прынцыпе мы зрабілі тут наступнае: разабраліся з размяшчэннем КРП у цэлым, «выцягнулі на паверхню» ўсе іх склады і базы, вызначылі маршруты вывазу небяспечных рэчываў — бо Расія, наколькі я ведаю, канчаткова не адмовілася забраць іх да сябе.

**— У кастрычніку мінулага года ўрадам нашай краіны была прынята ўласная праграма па утылізацыі КРП...**

— І калі яна з'явілася, то паўстала і такое пытанне: калі меланж і іншыя ядавітыя кампаненты будуць вывозіць на знішчэнне на нейкія нашы ваенныя палігоны, то не выключана, што маршруты пралягуць і праз населеныя пункты. Гэта, між іншым, адзін з фактараў, які падштурхнуў да стварэння вышэйпамянёнага «Плана ўзаемадзеяння...»

Яшчэ адна важная дэталь: на Беларусі створана аварыйна-пажарна-выратавальная служба — для выканання першачарговых мерапрыемстваў. Цяпер яна не толькі тушыць пажары, але і пры ўзнікненні надзвычайнай сітуацыі (НС) першай выходзіць у раён дзеянняў. Калі ж здарыцца НС больш глабальнага характару, то тады падключаюцца і сілы другога эшалона — часці ўнутраных войскаў.

**— Не палічыце, Уладзімір Сяргеевіч, за недарэчны палемічны выпад, аднак наша размова круціцца пакуль вакол агульных месцаў. Я сказаў бы, вакол прынцыпаў дзейнасці ГА. Але жыхарам таго ж Сяльца, упэўнены, было б цікава пачуць пра сваё становішча і нешта канкрэтнае.**

— Без растлумачэння агульных прынцыпаў таксама не абыдзешся. З другога боку, не магу ж я дэталёва праясняць канкрэтыку па ўсіх месцах, дзе магчыма ўзнікненне надзвычайнай сітуацыі. Скажу так: у нас па кожнаму штабу ГА вобласці, раёна ў планах канкрэтна, літаральна да нумароў аўтамашын распісаны парадак дзеянняў кожнай службы, у тым ліку і ў адносінах да базы КРП у Сяльцы. Там вызначаны дзяжурныя сілы, якія павінны рэагаваць першымі, пажарныя ўжо нацэлены на гэта, яны, а таксама і ваенныя правялі неабходныя тактыка-спецыяльныя заняткі.

Так, да 1995 года мы не прадугледжвалі ў планах магчымыя надзвычайныя сітуацыі з «удзелам» КРП. Цяпер жа «Планам узаемадзеяння...» мы ўнеслі, падкрэслю яшчэ раз, адпаведныя дапаўненні, змяненні ў планы мірнага часу па ўсіх тэрыторыях ГА — там канкрэтна сказана, як апавясціць насельніцтва, што канкрэтна павінны рабіць нашы службы на месцах, — і жыхары пра гэта ведаюць.

**—Гэты «момант» неабходна прасвятліць. Бо ў жыхароў Сяльца якраз і пыталіся, хто іх будзе ратаваць у неабходным выпадку? На што атрымалі адказ: спадзяёмся, маўляў, на мясцовых вайскоўцаў. Яшчэ менш ведае асобна ўзяты грамадзянін, што ён павінен рабіць асабіста, каб пазбегнуць бяды.**

— Хто ў Сяльцы мог такое сказаць? Вядома, кожнаму цывільнаму Іванову ці Пятрову ўсе дэталі і нюансы нашай службы не растлумачыш, ды гэта і немагчыма. Зроблена асноўнае: мы давялі неабходныя практычныя звесткі да мясцовых кіраўнікоў, і яны ведаюць, як дзейнічаць, як апавясціць насельніцтва, сабраць людзей, даць каманду на эвакуацыю, калі трэба.

Наогул па кожным канкрэтным месцы, дзе захоўваюцца КРП, распрацаваны асобныя рашэнні, дзе ўсё разлічана па максімуму.

**— Дарэчы было б расшыфраваць і само вызначэнне «па максімуму».**

— Гэта адзін з прынцыпаў нашай работы. Усе магчымыя надзвычайныя сітуацыі, іх вынікі мы разлічваем менавіта па максімальнай шкале. Напрыклад, мы ведаем, што недзе эксплуатуецца ёмістасць на 100 кубічных метраў, скажам, з аміякам. Калі разлічваем наступствы сітуацыі пасля яе магчымага выбуху, то зыходзім менавіта з гэтага аб'ёму, хоць на самай справе там усяго 50 кубаметраў рэчыва, а ста «кубоў» адначасова тэарэтычна там ніколі не будзе. Аднак толькі з такімі допускамі для большай бяспекі ў нашай справе і трэба падыходзіць.

**— Мы дамовіліся, Уладзімір Сяргеевіч, што органы кіравання на месцах, вашы спецыялісты добра ведаюць, што і каму рабіць у так званую «гадзіну Х» — усё загадзя пракруцілі на картах і схемах. Але ж, калі, не дай Бог, усё «закруціцца па праўдзе», то акажацца, што неабучанае цывільнае насельніцтва (у надзвычайнай сітуацыі — проста перапалоханы натоўп) якраз і будзе непрадказальнымі дзеяннямі перашкаджаць Грамадзянскай абароне рабіць сваю справу. Проста неабходны, скажам так, лікбез і пастаяннае навучанне людзей, вось аб чым клопат...**

— Пагаворым пра прафілактыку. Штабы ГА на месцах пастаянна праводзяць яе сярод насельніцтва, у прыватнасці на тэму: што такое гэтыя самыя самін і меланж, у чым іх небяспека для чалавека. Такая работа вядзецца і ў Сяльцы. Мясцовыя жыхары, напэўна, ужо лепш за нас з вамі ведаюць, што гэта за рэчывы, чаго ад іх чакаць. Тым больш гэта ведаюць кіраўнікі калгасаў, саўгасаў, сельсаветаў, якія будуць арганізоўваць людзей, калі, магчыма, бяда і здарыцца.

Добрая палова жыхароў у Сяльцы, наколькі вядома, менавіта на суседняй ваеннай базе і працуе. Яе ж камандзір нясе адказнасць за правядзенне з імі заняткаў па мясцовай абароне, што ён і робіць. Таму, відаць, у людзей і такое ўражанне, быццам толькі вайскоўцы ў адказе за ўсё. На самай жа справе заняткі з насельніцтвам вёскі праведзены і штабам ГА Гродзенскай вобласці, што закладзена ў планах, а значыць — і рэалізоўваецца.

**— Не магу ўсё ж не выказаць апасення. Вельмі рэдкія ў ранейшыя часы вучэнні па грамадзянскай абароне заўсёды дэманстравалі звычайную неразбярыху: і людзі не ведалі, куды ім бегчы, і іх выратавальнікі не вызначаліся дакладнымі дзеяннямі. Ці не будзе ў магчымым выпадку рэальнасць рэзка адрознівацца ад таго, што ў планах? Не здарыўся б «малы Чарнобыль»...**

— А вы ўспомніце Чарнобыль сапраўдны: і планы па прадухіленню і ліквідацыі, зразумела, былі, і ўсё астатняе. Калі ж справа пачала залежаць ужо ад кіравання пасляаварыйнай сітуацыяй, усё пайшло наперакасяк. Планы рэалізаваны не былі, хоць выконваліся кампетэнтнымі органамі.

Сапраўды, калі мы прагназіруем любую надзвычайную сітуацыю, то, безумоўна, на планах, схемах, у час вучэнняў усё быццам бы нармальна. А калі НС адбудзецца ў рэальнасці, то можа скласціся ўжо іншая ў сваім развіцці сітуацыя — з-за аб'ектыўнага ходу падзей, суб'ектыўных прычын, і ўсё гэта можа адмоўна ўплываць на дакладнасць выратавальных работ.

**— Паспрабуем успомніць пятнаццацігадовай даўнасці аварыю на азотна-тукавым заводзе ў Літве — «рыжы шлейф» ядавітага вокіслу азоту тады цягнуўся на дзесяткі кіламетраў.**

— Калі дакладна, то на 34 кіламетры. Смяротных выпадкаў сярод пацярпеўшых тады не было, хоць сур'ёзных атручэнняў хапала.

**— Значыць, тады людзей змаглі «выхапіць» — падалей ад «рыжай смерці». А якую сітуацыю мы зможам змадэліраваць у нашай размове?**

— У зацверджаным «Плане ўзаемадзеяння...» прадугледжана і гэта — будзе наладжана пастаяннае сачэнне за станам атмасферы, напрамкам вятроў, якія могуць пацягнуць за сабой такі ж «рыжы шлейф». Гэта акалічнасць у многім будзе вырашаць канкрэтныя дзеянні нашых службаў, інфармаванне людзей, іх эвакуацыю. Са складоў, калі гэта спатрэбіцца, эвакуіраваным падвязуць ежу і ваду. Што датычыцца процівагазаў, то на рукі гэтыя сродкі індывідуальнай абароны мы не выдаём. Прычына простая: калі Іванову ці Пятрову аддаць спецпроцівагаз, каб ён вісеў на цвіку ў хаце, то, магчыма, дарослыя, а хутчэй — дзеці хутка парэжуць яго, прабачце, на рагаткі.

Адным словам, калі выдаць кожнаму спецпроцівагаз на рукі, то ў час надзвычайнай сітуацыі ў 90 працэнтаў насельніцтва сродкаў індывідуальнай абароны проста не акажацца.

**— Сапраўды, што гэта за жыццё, скажам так, пад дамоклавым мячом, калі процівагаз з акулярамі, што вісіць на сцяне, кожны дзень напамінае табе пра тое, пра што не хочацца і думаць?**

**А думаць трэба. Не буду, Уладзімір Сяргеевіч, пытацца пра канкрэтныя «працэнты», але ўсюды ў свеце пры прагназіраванні магчымых ЧП зыходзяць з нейкіх «сярэдніх» лічбаў тых лятальных зыходаў, якія кожная такая сітуацыя можа прынесці. Ці не так?**

— На кожны выпадак надзвычайнай сітуацыі маюцца, зразумела, адпаведныя разлікі такога роду страт. Яны залежаць, безумоўна, ад маштабаў самой НС. Ёсць і методыкі разлікаў: колькі будзе сярод насельніцтва смерцяў, колькі выпадкаў рознай ступені і цяжару атручэнняў.

І такая «матэматыка», на вялікі жаль, неабходная, хоць яна вельмі цяжкая для звычайнага чалавечага ўсведамлення. Лепш за ўсё, каб яна ў дзеянне і не ўступала. Думаю, мы з вамі пагодзімся на тым, што калі гаворка ідзе аб праблеме меланжу, то лепшае выйсце з магчымага непрыемнага становішча — гэта вывезці, перапрацаваць ці наогул спаліць яго. Словам, хутчэй пазбавіцца ад пагрозы людзям.

**— Цалкам з вамі згодзен. Няхай хоць бы ў гэтым выпадку ў вашай службы было менш работы ці не было яе наогул! І дзякуй вам за гутарку.**

**Падрыхтаваў Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

*НАЎЗДАГОН*

## РЭФОРМА ШКОЛЫ: СПЯШАЦЦА ЛЕПШ ПАВОЛЬНА

***Школьная рэформа, аб якой так часта гаварылі апошнім часам, адбудзецца. Днямі такое рашэнне прыняў урад рэспублікі. З гэтай нагоды карэспандэнт «Звязды» гутарыць з намеснікам міністра адукацыі Беларусі Генадзем ДЫЛЯНАМ.***

**— Прыгадаем, што ўсе папярэднія спробы правядзення школьных рэформаў зводзіліся, у рэшце рэшт, да вядомай спрэчкі аб «фізіках» і «лірыках». Якому тыпу адукацыі будзе аддадзена перавага на гэты раз — тэхнічнаму альбо гуманітарнаму?**

— Калі гаварыць аб школьных рэформах 60-х і 80-х, вы маеце рацыю. Такія спрэчкі былі, прычым перавага заўсёды аддавалася «фізікам». Таму наша школа сапраўды набыла тэхнакратычны ўхіл, што тлумачылася перш-наперш дзяржаўным заказам — школа рыхтавала функцыянераў.

Што да апошніх часоў, дык тут усё адбывалася якраз наадварот. Не сакрэт, што сёння ў нашых школах цыкл гуманітарных прадметаў па аб'ёмах цалкам адпавядае сярэднееўрапейскім стандартам. Разам з тым крыху аслаблена ўвага да тэхнічнага накірунку — таго, чым наша школа заўсёды ганарылася і цікавасць да чаго, у сувязі з папулярнасцю эканамічных спецыяльнасцей, зараз зноў узялася. Настаў час аднавіць парытэт — і тэхнічны, і гуманітарны накірункі павінны быць прэстыжнымі аднолькава. Таму школьная рэформа будзе на карысць як «фізікам», так і «лірыкам». Наша задача, у залежнасці ад здольнасцей і схільнасцей, задаволіць усіх вучняў і іх бацькоў.

**— Калі коратка, у чым сутнасць пераўтварэнняў?**

— Канцэпцыя рэформы прадугледжвае, што на Беларусі будзе ўведзена абавязковая дзесяцігадовая базавая адукацыя. Спачатку, з 1 па 10 класы, школа будзе шмат у чым уніфікаваная, заняткі будуць весціся па адзінаму вучэбнаму плану. Гэта будзе ўжо завершаная адукацыя, але тым, хто пажадае працягваць навучанне ў ВНУ, прыйдзецца скончыць яшчэ і старэйшую школу. На гэтым этапе — 11-12 класы — з'явіцца некалькі профіляў: навучальна-матэматычны, гуманітарны, тэхналагічны, эстэтычны. Па сутнасці, такім чынам пачнецца ўжо падрыхтоўка будучых абітурыентаў.

**— Пры ўвядзенні ліцэйскага тыпу навучання ў 11-12 класах ці не акажуцца «адрэзанымі» ад вышэйшых навучальных устаноў жыхары сельскай мясцовасці? Бо не сакрэт, што забяспечыць шматпрофільную адукацыю на вёсцы зараз амаль нерэальна...**

— Сапраўды, цяперашняя рэформа больш прыстасаваная да гарадоў — прынамсі, тут чатыры профілі можна стварыць нават у адной школе. На вёсцы такіх магчымасцей амаль няма. Мы цудоўна разумеем гэту акалічнасць і таму вырашалі, што каб не пазбаўляць пэўныя катэгорыі нашых грамадзян іх законнага права на паступленне ў ВНУ, навучанне ў 11—12 класах таксама можа насіць агульнаадукацыйны характар.

**— Калі ідзе гаворка аб рэформе, зразумела, паўстае пытанне аб тэрмінах...**

— Распараджэнне Прэзідэнта аб падрыхтоўцы і правядзенні школьнай рэформы падпісана яшчэ 4 студзеня 1996 года, зараз канцэпцыя рэфарміравання адобрана Кабінетам Міністраў. Цяпер ідзе прапрацоўка асноўных палажэнняў канцэпцыі — да гэтага падключыліся практычна ўсе педагагічныя ВНУ і універсітэты рэспублікі, якія, дарэчы, працуюць на альтэрнатыўнай аснове. Далей ўсе напрацоўкі павінны быць абмеркаваны настаўнікамі. Наконт канкрэтных тэрмінаў, чакаецца, што пераход на новыя праграмы пачатковай школы (1—5 класы) пачнецца з 1 верасня 1997 года і скончыцца праз два гады — 1 верасня 1999 года. Далей, пераўтварэнні пастуова пройдуць у шостых, сёмых, восьмых і г.д. класах. Рэформа завершыцца ў 2005 годзе.

**— Але ці не занадта зацягнуты час?**

— Не. Рэфармы 60-х і 80-х гг. не спрацавалі якраз таму, што іх спрабавалі правесці імгненна — літаральна за два гады. Таму, як казалі ў старажытнасці, у гэтым выпадку лепш спяшацца павольна.

**Сяргей ГРЫБ.**



Нечаканая сустрэча. Фота Уладзіміра ФЯДОТАВА.

*КРЫМІНАЛ*

## ДАРОЖНЫЯ РАБАЎНІКІ РОБЯЦЬ ДРУГУЮ ВЫЛАЗКУ

**У паселішчы Мухавец, што пад Брэстам, зноў абрабавалі ўкраінскіх гандляроў.**

«Волгу» грамадзяніна Украіны, які вёз у Брэст памідоры, пагражаючы абрэзам паляўнічай стрэльбы, спынілі пасажыры сумна вядомага «ВАЗа» без нумароў. Чацвёра невядомых у масках пад пагрозай зброі забралі ў яго залаты пярсцёнак, 50 долараў ЗША, 38 тысяч зайцоў, аўтамагнітафон і ўцяклі. У выніку мерапрыемстваў, праведзеных супрацоўнікамі міліцыі, «Жыгулі» злачынцаў былі знойдзены недалёка ад Брэста. Як высветлілася, гэты аўтамабіль быў угнаны 6 жніўня ў жыхара Брэста і знаходзіўся ў вышуку. Вядуцца пошукі рабаўнікоў.

**Пётр РАБКАВЕЦ, прэс-цэнтр МУС.**



# Віншаванні

*Сардэчна віншую з днём нараджэння дарагую і мілую сястрычку* ***Аляксандру Ціханаўну Музычэнка*** *з п. Краснае Брагінскага раёна. Жадаю доўгіх гадоў жыцця, моцнага здароўя, радасці ў жыцці.*

**Сястра Таня.**

*Віншуем з днём нараджэння сваю дарагую мамачку* ***Рыму Дзмітрыеўну Ганчарову.*** *Жадаем здароўя і шчасця.*

**Дзеці.**

*Сардэчна віншуем з 70-годдзем дарагую мамачку* ***Вольгу Сяргееўну Чапурнову.*** *Жадаем моцнага здароўя. Няхай жыццё будзе спакойным і багатым толькі на добрыя падзеі.*

**Сын, нявестка, унучка.**

*Віншуем з днём нараджэння любімую дачушку* ***Марчанка Людмілу.*** *Жадаем здароўя, шчасця на ўсё жыццё.*

**Маці, тата, браты.**

*Віншую любімую жонку* ***Таццяну Міхайлаўну Дзенісавец*** *з днём нараджэння. Жадаю радасці ў жыцці і ўдачы ва ўсіх справах.*

**Віталь Рыгоравіч.**

*Горача і сардэчна віншую з днём нараджэння сястру* ***Наталлю Мікалаеўну Шыкаву*** *з Маладзечна. Жадаю моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у жыцці і на працы, каб усмешка і добры настрой заўсёды спадарожнічалі табе.*

**Брат з Гомеля.**

*Віншуем з днём нараджэння* ***Рошчу Уладзіміра, Івана, Валерыя, Свету, Олечку.*** *Жадаем добрага здароўя, шчасця, удачы.*

**Мама, бабуля.**

*Віншуем з 19-годдзем* ***Сашу Бурца*** *з в/ч 65581. Жадаем здароўя, шчасця, поспехаў у службе і жыцці.*

**Мама, тата і Вадзім.**

*Сардэчна віншуем дачушку і ўнучку* ***Аксану Анатольеўну Рудніцкую*** *з днём нараджэння. Жадаем здароўя, радасці і доўгіх гадоў жыцця.*

**Бацькі, брат Максім і баба Мар'яна.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 27 жніўня

### Беларускае тэлебачанне

**8.00** Навіны. **8.15** Аўта-парк. **8.30** Абібок. **9.00** «Усё пра ўсё». Інфармацыйна-пазнавальная праграма для дзяцей. **9.25** «Гэта мы не праходзілі...» Эканамічная праграма. **9.40** Тураб'ектыў. Падарожжы, сустрэчы, адпачынак. **10.00** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага». Тэлесерыял. **15.00** Навіны. **15.15** «Фліпер». Тэлесерыял для дзяцей. **15.40** «Травяная пастачка». Мультфільм. **15.55** Госці ў хату. Да Дня незалежнасці Рэспублікі Малдова. **16.25** «Мара дзяцінства». Канцэрт юнага спевака з Малдовы Сашы Манчыў. **16.50** Востры вуг... Праграма па пісьмах гледачоў. **17.20** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.50** Музычны антракт. **18.00** «Свята вады і агню». Тэленарыс. **18.15** «Будзьце здаровы». **18.25** Эканамікст. **18.35** «Тройчы па адным». Музычная перадача MTV. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.05** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага». Тэлесерыял. **20.00** Творцы. Паэт Генадзь Бураўкін. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Хроніка жніва-96. **22.10** «Зоркі» на экране. Галіна Бяляева і Аляксандр Панкратаў-Чорны ў маст. фільме «Паветраныя піраты». **23.30** Музыка без межаў. Музычна-інфармацыйная праграма. **0.10** Навіны.

### ГРТ

**5.00** Тэлераніца. **8.00** Навіны. **8.15** «Новая ахвяра». **9.05** Калі... Вядучы — У. Познер. **9.45** Смехапанарама. Вядучы — Я. Петрасян. **10.15** «Чаму заяц хаваецца». **10.30** Угадай мелодыю. **11.00** Навіны (з сурдаперакладам). **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Мы і рынак». **11.50** Леанід Філатаў у фільме «Голас». **13.25** Каханне з першага погляду. **14.00** Навіны (з сурдаперакладам). **14.20** «Рыцар Адважнае Сэрца». **14.45** Квар'етэ «Вясёлая квампанія». **14.55** Мульцітролія. **15.10** Чароўны свет ці Сінема. **15.40** «Элен і хлопцы». **16.05** ...Да шаснаццаці і старэй. **16.30** «Вакол свету». Па старонках перадачы «Клуб падарожнікаў». **17.00** Навіны. **17.20** «Новая ахвяра». **18.10** Час пік. **18.35** Угадай мелодыю. **19.00** «У пошуку страчанага». Фаіна Ранеўская. Вядучы — Г. Скараходаў. **19.45**. Спакойнай ночы, малышы! **20.00** Час. **20.35** Праграма перадач. **20.40** Фаіна Ранеўская і Любоў Арлова ў фільме «Вясна». **22.40** Навіны. **22.50** Хіт-парад.

### Канал «Расія»

**16.00, 19.00, 22.00, 23.35** Весткі. **16.20** Музыка ўсіх пакаленняў. **16.35** Залежыць ад цябе. **16.50** «Чэленджэрс». Серыял для падлеткаў (Францыя). **17.20** Тэлечасопіс «Здароўе». **17.30** Кліп-антракт. **17.35** Дню кіно прысвячаецца. Мультфільм Ю. Нарштэйна «Казка казак». **18.00** Надзвычайны канал. **18.30** Нічога, акрамя... **18.40** «Цёмная» для Р. Яўлінскага. **19.30** Фаіна Ранеўская ў фільме «Падкідыш». Да 100-годдзя з дня нараджэння актрысы. **21.05** Надвор'е на заўтра. **21.10** Хакей. Кубак свету. Фінляндыя—Чэхія. Перадача з Хельсінкі. **23.25** Навінкі ад «ТБ-медыа». **23.50** Музыка ўсіх пакаленняў.

### Санкт-Пецярбург

**11.55, 12.55, 13.55, 15.00, 16.55, 18.55, 22.00** Інфарм ТБ. **12.05** «Першае каханне». Серыял. **13.10** Тэрмін адказу — сёння. **13.40** Парады садаводам. **14.05** «Рышэлье». Маст. фільм (Францыя). 1-я серыя. **15.15** «Горад». Маст. фільм. **16.30** «Два прагныя медзведзяняці». Мультфільм. **16.40** Тэлеслужба бяспекі. «Па-за законам». **17.05** «Філасофія па Філу». Серыял для падлеткаў. **17.30** Стыль жыцця. **17.35** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія. **18.40** Вялікі фестываль. **19.15** Спорт. **19.20** «Першае каханне». Серыял. **20.10** «Разам з маладымі». Музычны фільм. **20.40** Тэлеслужба бяспекі. **20.55** Спартыўны агляд. **21.05** «Рышэлье». Маст. фільм (Францыя). 1-я серыя. **22.15** Блеф-клуб.

### НТБ

**6.00, 13.00** Сёння **6.20** «Уладар джунгляў». Маст. фільм (Германія). **6.45** «Суддзя». Маст. фільм (Італія). **7.35** Маст. фільм «Семдзесят раз па сем» (Аргенціна). **9.05** Дак. фільм «Успомні тыя гады. 1945—1946». 2-я, 3-я серыі (Вялікабрытанія). **10.35** Маст. фільм «У першы раз» (ЗША). **12.05** Час серыяла. «Дом жахаў Хамера». **13.00** Маст. фільм «Выратуй і захавай».

### Расійскія універсітэты

**14.45** Музыка белай ночы. **15.05** «Дайце, дайце мне Ранеўскую...» Да стагоддзя з дня нараджэння актрысы. **16.00** Музычныя навіны. **16.15** Да 60-годдзя кінастудыі «Саюзмультфільм». «Юбілей». Мультфільм. **16.45** Навіны.

### НТБ

**17.00** Адкрыты чэмпіянат ЗША па тэнісу. **18.00, 21.00, 23.00** Сёння. **18.35** Дак. фільм «Дыпламатыя ЦРУ» серыяла «Шпіёны». **19.00** Маст. фільм «Галоўны офіс» (ЗША). **20.35** Рускі альбом. Група «Наўцілус Пампіліус». **21.35** Час серыяла. «Дом жахаў Хамера» (ЗША). **22.30** Часінка. **23.20** Адкрыты чэмпіянат ЗША па тэнісу.

### МКТ

NBC. Super Channel. **10.50** Анонс. **11.00** RTL-2. «Смейцеся на здароўе». **11.35** Дэвід Духоўны ў фантастычным серыяле «Сакрэтныя матэрыялы». **13.05** Polsat. **19.00** Анонс. **19.10** Мультфільм «Баявы анёл Аліта». **20.10** Маст. фільм «Сакрэтныя матэрыялы». **21.40** «Навіны «К-відэа». **22.15** Фрэнк Загарына ў баевіку «Раз'юшаны ўцякач». **23.40** RTL.

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

**27 жніўня 1770 года** нарадзіўся Георг Вільгельм Фрыдрых Гегель, нямецкі філосаф, які стварыў на аб'ектыўна-ідэалістычнай аснове сістэматычную тэорыю дыялектыкі. Асноўныя сачыненні: «Фенаменалогія духа», «Навука логікі», «Энцыклапедыя філасофскіх навук», лекцыі па філасофіі і гісторыі, эстэтыцы, філасофіі рэлігіі, гісторыі філасофіі.

**27 жніўня 1840 года** ў маёнтку Горы-Горкі Магілёўскай губерні заснавана земляробчая школа, будучая Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія.

140 гадоў назад — **27 жніўня 1856 года** — нарадзіўся Іван Франко, вядомы ўкраінскі пісьменнік, вучоны, грамадскі дзеяч.

У гэты дзень **у 1871 годзе** нарадзіўся вядомы амерыканскі пісьменнік Тэадор Драйзер, аўтар «Амерыканскай трагедыі», «Сястры Керы», «Тытана», іншых раманаў.

### Народны каляндар

Сёння — **Міхей**. Паводле народных прымет, калі на Міхееў дзень ціхі вецер — да добрай восені, моцны — восень дажджлівая. Пачынаюць збіраць брусніцы.

### Цікава

***Фароскі маяк — адно з сямі цудаў свету. Яго вежа вышынёй да 120 метраў з агнем наверсе, пабудаваная ў III стагоддзі да нашай эры, стаяла ля ўваходу ў Александрыйскі порт у Егіпце.***

Маяк быў разбураны землятрусамі на працягу IV—XIV стагоддзяў. Вось ужо два гады французскія археолагі шукаюць яго рэшткі пад вадой каля Александрыі. Зараз знойдзены калоны, статуі, амаль непашкоджаны сфінкс, вялікія каменныя блокі вагой па 50—70 тон. Усё гэта рэшткі нейкага грандыёзнага збудавання, але для таго, каб сцвярджаць, што гэта менавіта разваліны Фароскага маяка, не хапае пакуль рашаючага доказу: рэшткаў статуі Пасейдона, якая вянчала вежу. Падводныя раскопкі працягваюцца.

### Дзесьці на белым свеце

***Марлін Новік праводзіла ў апошні шлях свайго горача любімага... Крошку. Чатырнаццацігадовы сабачка з роду йоркшырскіх тэр'ераў адышоў у свет іншы за дзень да таго ў ветэрынарнай клініцы каліфарнійскага гарадка Дубовы Гай. Дыягназ — старэчая нямогласць — што нядзіўна ў такім сабачым узросце.***

Марлін гатова была зрабіць для Крошкі ўсё магчымае і немагчымае — напрыклад, вылажыць 2000 долараў за аперацыю па выдаленню двух катаракт, але пасля таго, як урачы выявілі поўнае знясіленне жыццёва важных органаў чатырохногага пацыента, яму давялося прапісаць адзіны ў такіх выпадках сродак — укол снатворнага.

Пахавальнае бюро «Навечна ў памяці» адразу ж прадаставіла памёршаму месца апошняга прыстанішча. Усяго за 150 долараў быў выдзелены ўчастак зямлі і прапанавана паўтара дзесятка ўзораў трун. Між іншым, кошт самай таннай мадэлі быў 215 долараў.

Дарэчы, мільянеры з Бэверлі Хілз у выпадку хваробы сваіх любімцаў змяшчаюць іх у раскошныя клінікі, дзе ім імплантуюць косці, праводзяць курс хіміятэрапіі і комплекснае лячэнне зубоў, уключаючы пратэзаванне.

### Што ў імені маім

***АРТУР — як мяркуецца, паходзіць ад кельцкага слова, якое азначае «вялікі мядзведзь». Артур — імя легендарнага караля брытаў V—VI стагоддзяў.***

Гэтыя спакойныя, ураўнаважаныя дзеці — радасць для бацькоў, імі ўсе задаволены, яны паслухмяныя. У школе характар крыху мяняецца, хлопчыкі становяцца запальчывымі, праяўляюць упартасць. У гэты час большасць з іх захапляецца маляваннем і нумізматыкай.

Іх прафесіі: гандлёвыя работнікі, стаматолагі, хірургі, юрысты, мастакі.

Жэняцца позна, вельмі прывязаны да сям'і, дзяцей, але жонкам дапамагаць па гаспадарцы не любяць. Артурам нялёгка дабіцца поспеху, аднак дзякуючы сваёй упартасці, якая мяжуе з хітрасцю, усё-такі дасягаюць становішча ў грамадстве. Раўнівыя, раніцай любяць даўжэй паспаць. Добрымі жонкамі для іх могуць стаць Валянціна, Ганна, Дыяна, Любоў, Людміла. Верагодна, не будзе ўдачы ў Артура з Нэлі, Вольгай, Русланай.

### Анекдот

*— Ты падала на развод?*

*— Не, я вырашыла вярнуцца да мужа — не магу спакойна глядзець, як гэты нягоднік жыве без клапот.*



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

***НАШ АДРАС***: *220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
***ТЭЛЕФОНЫ***: *прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98.* ***ФАКС***: *32-04-52, 68-28-77.* ***E-mail:*** *daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 4814.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12